
Змаганне за незалежнасць → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Каляндар 2019

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 52 (3268) Год LXIII | Беласток, 30 снежня 2018 г. | Цана 4,00 зл. (у тым VAT 5%)

Размова з **Уладзімірам Сідаруком** з Кузавы

# Шэсцьдзясят гадоў з «Нівай»

**Міра Лукша: — Шаноўны Уладзімір, Вы адзін з самых першых нашых ніўскіх карэспандэнтаў. Што Вас падштурхнула, каб напісаць у наш тыднёвік? Які гэта быў час і для Вас?**

**Уладзімір Сідарук:** — Не памятаю зараз, які гэта быў год — 1957, ці 1958. У «Зорцы» быў аб'яўлены конкурс на ўспамін аб падзеях з апошняй вайны. Я апісаў сутычку савецкіх партызан з немцамі ў нашым доме, якая здзейснілася 4 лютага 1944 года. Паколькі ў пачатковай школе, а былі гэта гады 1947-1954 я не навучаўся беларускай мове, а чытаў адно «Ніву», дык першае пасланае ў рэдакцыю пісьмо было блытанінай польска-рускіх слоў. У адказ атрымаў паведамленне, што за ўдзел у конкурсе прызначылі мне кніжную ўзнагароду: малдоўскія, як не памыляюся, казкі «Чароўная чаша». Пры тым заклік да супрацоўніцтва з «Нівай». Я ахвотна прыстаў на прапанову. У тым часе ў «Ніве» друкаваўся аповед Аляксандра Амільяновіча «Дэсант „Дальнія"», у якім аўтар апісваў падзею, якая разыгралася ў нашым доме. Я пачаў заглядаць у рэдакцыю. У 1959 годзе быў сталым наведвальнікам. Пазнаёміўся з журналістамі: Міхасём Хмялеўскім, Мацеем Канапацкім, Віктарам Рудчыкам ды галоўным рэдактарам Георгіем Валкавыцкім. Прыпамінаецца мне з таго часу сакратар рэдакцыі Міхал Баравік. У красавіку 1959 года быў надрукаваны мой першы кароценькі допіс «172 зл. у год на газеты і часопісы».

**— Як адлюстроўваўся ў карэспандэнцыях і Вашай літаратуры Ваш жыццёвы шлях?**


Фота Міры ЛУКШЫ

— Гэта доўгая і складаная гісторыя. У снежні 1960 года я афарміўся на працу ў Гарадской радзе ў Гайнаўцы. У тым жа часе актыўна ўдзельнічаў у маладзёжных арганізацыях Саюза вясковай моладзі (ЗМВ) і Лігі сяброў салдат (ЛПЖ). З'яўляўся членам павятовага актыву. Часта прыходзілася выязджаць у камандзіроўку на сходы вясковых гурткоў і арганізаваныя мастацкія мерапрыемствы. І гэта была для мяне, як карэспандэнта, тэма для допісаў. Свае артыкулы і допісы падпісваў псеўданімамі «Мацейка», крытычныя — «Кактус», «Кастусь Млынарскі» ды ініцыяламі — «УС» і Уладзімір Сідарук. У лістападзе 1962 года падаўся на працу ў Ваяводскае праўленне кіно, на штат кіраўніка кінапераcоўкі, дзе перапрацаваў амаль сем гадоў. З чэрвеня 1969 стаў чыгуначнікам і з гэтай установы летам 1995 года выйшаў на пенсію па інваліднасці. Багатая ў мяне жыццёвая біяграфія як у прафесійнай працы, так і ў публіцыстычнай дзейнасці. Трыццаць шэсць гадоў работы ў дзяржаўных установах і... шэсцьдзясят карэспандэнцкага стажу. Самым плённым перыядам у публіцыстыцы лічу сямідзясятыя-васьмідзясятыя гады, калі «Ніва» аб'явіла конкурс на карэспандэнта года. Я быў у авангардзе, атрымліваў ганаровыя граматы і ўзнагароды, словы прызнання ад рэдкалегіі і чытачоў. Большасць маіх допісаў у тым часе была крытычная. Хоць і шмат было «пахвальных» допісаў. Цешыўся, калі сваімі крытычнымі заўвагамі выпраўляў паталагічныя з'явы ў мясцовай грамадскасці. А праяўлялася гэта ў рубрыцы «Адказ на крытыку». Мае тэксты змяшчаліся ў рубрыках «З маёй званіцы», «Шляхам гадоў», «Якія мы людзі». Пісаў таксама казкі для дарослых. Лічуся суаўтарам выдання «Бежанства 1915 года». У 1980 годзе дэбютаваў на літаратурнай старонцы аповедам «Першае каханне». Маім настаўнікам у гэтай справе быў сардэчны прыяцель Сакрат Яновіч. Як сталы, вопытны чыгуначнік-публіцыст быў я рэкамендаваны рэдакцыяй на нараду ў Гайнаўцы, арганізаваную Цэнтральнай дырэкцыяй ПКП у верасні 1980 года, прысвечанаю распрацоўцы раскладу цягнікоў для школьнікаў і рабочых з раёну Семяноўкі, Гайнаўкі, Сямятыч, Чаромхі, Бельска-Падляшскага і Белавежы. Не пазбег я клопатаў і праблем на працы ў прадпрыемстве дзяржаўнай чыгункі, паколькі кляйміў паталагічныя з'явы ды «вярхушку». Гэта праявілася ў час падавання заявы на працу ў 1969 годзе, як і пазней у час пераводу з Семяноўкі ў Чаромху. Але, наперакор лёсу, я справіўся з праблемамі.



Фота Міры ЛУКШЫ

**— Можна назваць Вас хранікёрам найдрабнейшых падзей, нават надвор'я ці цэн на тутэйшым рынку. Раскажыце пра свой дзённік. Ці ведзяце яго да сёння і што ў ім запісваеце?**

— Гэта праўда. Дзённік важнейшых падзей з наваколля Чаромхаўскай гміны я рашыў пісаць, калі падаваўся на пенсію ў 1995 годзе. Змяшчаў у ім важнейшыя даты і факты, прагноз надвор'я і цэны тавараў ды прадуктаў, якія купляў у крамах ці на рыначку. Справай гэтай і па сённяшні дзень займаюся. Нельга апісаць у некалькіх словах усяго, што прапісана ў дзясятках блакнотаў цягам гадоў. Абавязкова трэба навочна пабачыць і пазнаёміцца з запісамі. Унікальны дакумент як на ўмовы лакальнага асяроддзя. Цікавая хроніка.

**— Колькі тэкстаў Вы даслалі і надрукавалі ў «Ніве»? Ці плануеце сабраць зборнік тыпу «Карэспандэнт праўду піша»?**

— Трэба пералічыць. А ў мяне зараз не стае на гэта часу. Магу толькі прыблізна назваць лік каля трох тысяч усяго разам. З таго, што змяшчаецца ў дамашнім архіве. Але не ўсё, разумееццa, скамплектаваў я ў першых пачатках. Шмат допісаў патрацілася. З 1999 года, калі «Ніва» змяшчаецца на інтэрнэт-старонках, усё можна праверыць. Ранейшыя свае тэксты магу адно праверыць у ніўскіх гадавых падшыўках. Ці планую сабраць зборнік, цяжка сказаць. Усё залежыць ад Усявышняга, бо для гэтай справы неабходныя грошы, здароўе ды час і дапамога сяброў. А ў мяне гэтага не хапае.

**— Як успамінаеце нашу ніўскую карэспандэнцкую сябрыну? Ці паявіліся між Вамі і іншыя сувязі?**

— Часта ўспамінаю ніўскі авангард: Мікалая Панфілюка з Дубіч-Царкоўных, Эдзіка Вайсковіча з Гайнаўкі, Пятра Байко з Белавежы, Васіля Петручука з Грабаўца (Беластока), Міхала Няплоху з Нарвы, Аляксандра Закройшчыка з Кленік. Зараз не прыходзіцца сустракацца з даўнейшымі калегамі. Старэйшыя адышлі ў вечны спачын. Малодшыя, пэўна, забыліся пра ніўскіх сенёраў. А варта было б яшчэ калісьці спаткацца і ўспомніць добрыя будні...

**— Як змянілася Ваша праца ў сучаснасць? Прыйшлося карыстацца інтэрнэтам, лічбавым фотаапаратам...**

— Я зараз пенсіянер-сеніёр дваццацітрохгадовай даўнасці. Жыву на вёсцы ў адзіноцтве. Ад чатырох гадоў маю праблемы са здароўем. Ніхто да мяне не заходзіць. Адзінай уцехай застаецца ніўскае супрацоўніцтва. Таму вольны час прысвячаю пісанню чарговых тэкстаў і ўспамінаў. Неўзабаве закончу цыклічны аповед друкаваны ў «Ніве» пад загалоўкам «Засталіся адно ўспаміны» аб працы ў ВПК у Беластоку. Затым пачаў ужо іншы цыкл — "Як працвітала Чаромха", у якім пакажу гісторыю пасляваеннай і сённяшняй Чаромхі як чыгуначнага цэнтра. Абы здароўе дазволіла справіцца з задуманым...

**— Ці плануеце нейкую большую літаратурную форму? Хто быў бы яе героем?**

— З такою думкай лічуся. Рабочы загаловак «Наперакор лёсу» — гэты аповед прысвячаю светлай памяці бацькоў ды жонкі Анны Сцяпанаўны.

**— Якія рысы характару і тэмпераменту павінен мець карэспандэнт, журналіст, чалавек пішучы з глыбінкі?**

— Непаседа, стойкі ды дапытлівы, непадатлівы на хібы грамадскага жыцця. Даверлівы і справядлівы. Карэспандэнт (журналіст) павінен адно праўду пісаць...

**— Дзякуем Вам за размову і жадаем перш за ўсё добрага здароўя, радасці ды натхнення, новых шляхоў і задум!**

Размаўляла
**Міра ЛУКША**





# Яшчэ адзін прамінуў

Чаргові, 2018 год, прайшоў, праляцеў, прамільгнуў, праскочыў і застанецца ў летапісе нашай гісторыі са сваімі адзнакамі і рубцамі, стратамі і набыткамі, памылкамі і досведам, расчараваннямі і маленькімі радасцямі. Здаецца, толькі што складаліся планы на цэлы год, а вось ужо да яго канца засталіся лічаныя дні. І, канешне, палову гэтых планаў рэалізаваць не ўдалося. Але трэба радавацца і таму, што ўрэшце здзейснілася. Бізнесоўцы мараць пабольш зарабіць, злодзеі — беспакарана пабольш украсці, дзеўкі — удала выйсці замуж, хлопцы — „адкасіць" ад саюзна-савецкага войска, спартоўцы — заваяваць медалі, пісьменнікі — выдаць нарэшце свае кніжкі. Усё і ўсе як заўсёды і не зусім так. Бо, калі прыкладам, узяць у Беларусі беспрацоўных, то пра што яны мараць? Знайсці працу? — Не, бо не кожная праца цешыць чалавека. Я б сказаў нават больш. Кожная праца нішчыць чалавека, але калі яна годная і добра аплачваецца, то гэты факт тады зніжае псіхалагічны дыскамфорт, а затак набывае вартасць і сэнс. Але больш усяго беспрацоўныя Беларусі мараць нават не пра годную працу, а пра тое, каб іх пакінулі ў спакоі. Бо скрозь абсурдны дэкрэт пра так званых дармаедаў дзяржава ўсё ж будзе ўкараняць і выкарыстоўваць. Пакуль яшчэ ніхто не ведае як дакладна, але дакладна будзе. Праўда ва ўладных статыстыкаў, якія нібы іхныя папярэднікі — айцы-бальшавікі, хочуць пералічыць кожную курыцу і нават кожнае яйка на прыватным падворку, зноў вылезлі на свет дзіўныя лічбы. З аднаго боку, яны даводзяць, што беспрацоўя ў самай шчаслівай з дзяцінства дзяржаве свету амаль няма, з іншага — колькасць тых няшчасных „дармаедаў" значна перавышае лічбу беспрацоўных. Такі парадокс лічыльнікаў, якія прывыклі даводзіць, што два на два гэта пяць.

Паводле няўмольнай логікі чалавечага жыцця і яго непазбежнага фіналу адышлі сёлета ў лепшы свет многія выдатныя беларусы сучаснасці — патрыярхі і ветэраны беларускага руху і культуры Барыс Кіт, Хведар Нюнька, Васіль Якавенка, Генадзь Гарбук, Ігар Лучанок, Георгій Штыхаў, Арсень Ліс... Іншыя пакінулі гэты свет занадта рана, па сутнасці ў росквіце творчых сіл — Міхал Анемпадыстаў, Алесь Ліпай, Уладзіслаў Ахроменка... Год для Беларусі ўвогуле быў дастаткова цяжкім і стратным. Папраўдзе, лепшага і не чакалася. Прынцып абы не было горш спрацаваў зноў у нейкай ступені.

У канцы 2018 года зноў актывізаваліся расейскія імперцы, зноў загаварылі пра аб'яднанне Беларусі з матухнай Расеяй у адзіную саюзную дзяржаву. Тая дзяржава нібыта ўжо даўно існуе на паперы, але экстаз блізкасці для Масквы ўсё яшчэ недастатковы. Так што рытуальныя „танцы з мядзведзямі" працягваюцца.

Для беларускай грамадскасці, людзей патрыятычных і адданых сваёй краіне, галоўнай падзеяй 2018 года стала адзначэнне сотых угодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі. Святкаванне 25 сакавіка і адзначэнні цягам года па розных гарадах Беларусі прайшлі годна і прыстойна. Нават уладам хапіла розуму не замінаць у гэтым. Што ж, дзякуй і на гэтым. Большага ніхто і не чакаў. Гэта была толькі часовая і невялічкая праява палітычнай „адлігі". У астатнім усё нязменна і стабільна — крок управа — штраф, крок улева — штраф, крок наперад — арышт. Беларусь стала больш адкрытай для замежнікаў дзякуючы пашырэнню бязвізавага ўезду, але засталася паранейшаму незычлівай да сваіх жыхароў. Не зрабіў наперад жыхарам Беларусі крок і Еўрасаюз — ягоная непрыныцповасць у палітычных пытаннях і бюракратыя ў візава-межавых толькі павялічвае колькасць еўраскептыкаў у беларускім грамадстве.

Працягнулася ўяўная барацьба з карупцыяй. Гэта калі тыя, што стварылі сістэму карупцыі, самі з ёй і змагаюцца. Народу — костка ў выглядзе чарговага арыштаванага чыноўніка ці дырэктара прадпрыемства, а насамрэч перакладанне грошай у іншыя кішэні. Схема простая — той, хто накраў, павінен аддаць накрадзенае, потым яго выпускаюць з турмы і ставяць на пасаду больш нізкую і куды менш прэстыжную. Да жорсткай азіяцка-кітайскай мадэлі канешне не дацягвае, але ж на тое ён і свой, асаблівы, шлях развіцця.

Так што год не быў нейкім кардынальным, пераломным ці асаблівым. Крот гісторыі капае, сняжынкі падаюць, а людзі, пакуль дыхаюць, спадзяюцца.

З Новым годам і Калядамі, шаноўныя чытачы!

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Гузік ды гаплік

Ужо некалькі няладных гадоў Расія тузае Украіну. Нядаўна ўзялася за Беларусь. Ці гэта мае адцягнуць увагу ад таго, што цяпер адбываецца ў украінска-расійскай мяжы? А там вельмі кепска. Ці справа ў чымсці іншым? Разбудоўваючы ваенны патэнцыял да ўзроўню «крытычнай масы», якая, у сваю чаргу, ініцыюе ваенны выбух, Пуцін па-ранейшаму, здаецца, стараецца пазбегнуць адкрытага ваеннага супрацьстаяння... з Украінай? З Еўропай? Са светам? Перш за ўсё, старанна хаваючы ад міжнароднай грамадскай думкі гатоўнасць дзяржавы да вайны. У той жа час падтрымлівае грамадства ў патрыятызме, які мяжуе з істэрыяй, з чаго можна высноўваць, аднак, што рыхтуе іх ментальна на ролю гарматнага мяса, аднак, што моцна падкрэсліваецца ў мясцовых СМІ, выключна ў мэтах самаабароны. Аднак, пярэднія лініі, нанесеныя на стратэгічных картах Пуціна, расійскія межы паступова рухаюць наперад. Расія неабавязкова вядзе толькі ўзброеныя, хоць напаўяўныя зачэпныя аперацыі ды прытым у самым цэнтры Еўропы, як у выпадку Украіны, але і выкарыстоўвае крывадушную дыпламатыю, змасаваную прапаганду ў цэлым зямным шары, або, як трэба паказвае прыклад лукашэнкаўскай Беларусі, выкарыстоўваючы супраць яе палітычны шантаж і індактрынацыйную дыверсію. Дарэчы, Гітлер ужываў тыя ж метады. Што да Беларусі, то яны праяўляюцца апошнім часам у заявах расійскіх палітыкаў, адназначна намякаючых, што гэтая дзяржава можа разлічваць на далейшую фінансавую падтрымку з Масквы толькі пры ўмове, калі рашыцца на «паглыбленне інтэграцыі» шляхам увядзення, сярод іншага, адзінай валюты, адзіных мытнай службы і суда, што, дэ-факта, было б раўназначным з паглынаннем Беларусі Расіяй. Гэта чыста палітычны шантаж, па аналогіі з нямецкім, прымушаючым Польшчу да экстэрытарыяльнага калідора на Усходнюю Прусію. Такі падыход да праблемы з боку расійскага прэзідэнта звужае Лукашэнку прастору для манеўру да мінімуму. Прыкладна да памеру іголачнага вушка. Ён сам у гэтым кантэксце паяўляецца як шматгорбы вярблюд. Тым больш, што эканамічная кандыцыя Беларусі знаходзіцца ў жаласным стане. Таксама таму, што Лукашэнка надта васальна звязаў сябе з расійскай нафтай. На самой справе, «іголачная» прастора для манеўру магла б пашырыцца да памераў замочнай дзіркі, ці нават матэрыялізавацца ў якасці ключа для разблакаваных дзвярэй, калі б Лукашэнку ўдалося перакапаць сваіх суайчыннікаў, што ён больш зацікаўлены ў захаванні суверэнітэту Беларусі, чым дыктатарскай уладай пад пратэктаратам Расіі. На жаль, мы не ведаем, як з ім ёсць на самой справе. Па-першае, не ведае гэтага шырока разуметая беларуская апазіцыя. І таму яе прастора для манеўру мінімальная, практычна роўная нулю. Таму што не можа ў гэтай сітуацыі вывесці людзей супраць яго на вуліцы — наколькі ёй залежыць на незалежнасці Беларусі, ані падтрымаць у супраціве да расійскіх спроб — калі ён толькі ўладалюбівы дыктатар, дарэчы, з той жа паліцы ўпартых дробных дыктатараў, як няўмелы прэзідэнт Венесуэлы Мадура, які прывёў сваю краіну да руіны. Дадатковай невядомай ва ўсёй гэтай мешаніне з'яўляецца рэальнае стаўленне беларусаў да сваёй уласнай ідэнтычнасці. Няўжо яны хочуць незалежную Беларусь? Справа не зусім да канца пэўная. Беларусы самі не ведаюць. Але не таму, што яны не ведаюць, а таму, што ніхто не пытаецца ў іх пра іх думку. У Беларусі не праводзяцца аўтарытэтныя абследаванні гэтага пытання, а таксама не абмяркоўваюць яго публічна, не кажучы ўжо пра тое, што было б вельмі палітычна некарэктным у лукашэнкаўскай прасторы. І беларусы практыкуюцца ў асцярожнасці. Калі яны спрабуюць апісаць сваю ўласную ідэнтычнасць, яны мусяць ці змерыцца з пазнаўчым шумам. Родная мова амаль цалкам выцеснена з грамадскай прасторы Лукашэнкам. А сімвалы нацыянальнай ідэнтычнасці саветызаваныя Лукашэнкам. Хоць кожны беларус ведае, па-за ўсякім сумневам, што ён беларус, але і ў яго абагульненай масе не ведае, які: прарасейскі, праславянскі, праеўрапейскі... Не без прычыны актывізавалася руская індактрынацыя, накіраваная на шкодніцтва ў гэтай краіне. Некалькі дзён таму Уладзімір Жырыноўскі, якога шырока разглядаюць як неафіцыйны «голас Крамля» без маласэрнасці сказаў: «... калі б правесці рэферэндум на Беларусі аб вяртанні ў склад Расіі, пераважная большасць беларусаў выкажацца за яго».

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Чытайма «Ніву» разам!

Хто памаленьку, хто з шалёнай хуткасцю, але ўсе завяршаем 2018 год. На мінулыя дні глядзім ужо як на час былых поспехаў, або параз ці клопатаў, што надоўга ўрэзваюцца ў нашы душы і сэрцы. Нягледзячы на індывідуальна-сямейны падыход да парадку гэтага свету, ёсць справы і рэчы, якія кранаюць перш за ўсё нас, беларусаў — грамадзян Польшчы, адначасна будучых часткай вялікай, духоўнай агульнабеларускай сям'і. Проста міжволна ціснецца на вусны адно пытанне: як доўга быць нам сабою ў падляшска-агульнапольскай прасторы? Ці паланізацыя і асіміляцыя з'есць нас як той рак, што з'ядае чалавека? Усе рэкамендуюць хворым, што рак трэба спачатку асвоіць, а потым перамагчы. Ведаю шмат знаёмых, што справіліся з гэтай справай на выдатна, таксама ў вялікім коле нашай ніўскай сям'і. Скажу шчыра, што з вялікай пашанай прыглядаўся я іхнім змаганням за выжыванне. Дарэчы, кожная хвароба можа ні з пушчы, ні з поля аказацца той адзінай, смяротнай. Звычайная прастуда ці зубны боль у любы момант можа прынесці сямейнікам рыданне і развітанне. На працягу апошніх гадоў такія сумныя падзеі мелі месца і ў маім сямейным кругу. А асабістыя, шпітальныя пабыўкі дазволілі мне яшчэ больш адчуць складанасць чалавечага цярпення і выпрабавання. Здаровы не будзе разумець хворага, так як сыты галоднага. Аднак адчуванне цярпення іншых людзей ёсць і павінна быць асновай называння сябе людзьмі.

У перыяд калядных свят важнейшым для нас павінна быць простае чалавечае слова, а не чарговы падарунак, за якім няма цеплыні нашых сэрцаў. Прыезд дзяцей да бацькоў і дзядуляў гэта наша людская эмоцыя. Мая знаёмая бабуля распавядала мне, што ў яе шафе ляжыць поўна запіхнутых і нікому непатрэбных калядных падарункаў. «А каб разам праспяваць калядкі, о то для мяне была б асалода, — гаварыла яна. — Але хіба не дачакаюся такой радасці і ў гэтым годзе, бо мае дзеці разам з унукамі ўліпнуць носам, вачыма і вушамі ў свае тэлефоны і будуць гаварыць пра справы, якіх я абсалютна не разумею. А маглі б самыя і для сябе для мяне пачытаць напрыклад «Ніву» ўголас», — падкрэсліла ўсхваляваная. Яе эмацыйнасць і светлае адчуванне тонкасці чалавечых пачуццяў вобразна паказваюць нашу духоўную хваробу.

Беларускае грамадства, кампактна пражываючае ў вяскова-маламестачковай прасторы, памаленьку адводзіць сябе ў апошнюю дарогу. Дэмаграфічна-гаспадарча-нацыянальны капітал не выконвае сваіх жыццяздольных функцый. Гартаючы падшыўкі «Нівы» з мінулых гадоў і параўноўваючы грамадскі патэнцыял усходняй Беласточчыны з сённяшнім светам хвароб і састарэласці, проста паказвае як разышліся колішнія спадзяванні з сённяшняй рэальнасцю.

Кожная традыцыя меншасці без нацыянальнай культурна-моўнай афарбоўкі не перажыве пад ударам часу і больш асных асыроддзяў. Таму варта памятаць усім нашым чытачам, што вельмі простым спосабам свайго патрыятызму і адметнасці з'яўляецца падтрымка беларускіх ініцыятыў. Гадавая падпіска на наш тыднёвік, які пачне ўжо 63 год быць са сваім чытачамі, з'яўляецца таксама вельмі добрым і пажаданым калядным падарункам. У сітуацыі, калі адзін за другім знікаюць кіёскі ці крамы, якія прадаюць «Ніву», яе падтрымка такім чынам будзе таксама доказам нашай грамадскай спеласці. Бо нішто так не баліць, калі бачыш і адчуваеш, як беларусы прыніжаюць саміх сябе. Таму можа потым становяцца яны такімі злоснымі і крыўдлівымі ў дачыненні да сябе і іншых нацый. Свет мяняецца і патрабуе ад нас саміх большай самастойнасці, самафінансавання і самаадукацыі.

Але калі маем несці на плячах чарговыя гады і ўсялякія выпрабаванні, то без здароўя не пераадолеем усіх нашых выклікаў. Таму чытачам «Нівы» ад усёй рэдакцыі жадаем здароўя штодзень, калядніках на святы, гасцей чаканых, унучкаў выгляданых. Каб грошы прыхаваліся, а нашы твары ўсмешкай віталіся. Са святамі і Новым годам!

**Яўген ВАПА**

# Як беларусы і палякі змагаліся за незалежнасць

**Наш беларускі гісторык і грамадскі дзеяч, старшыня Беларускага гістарычнага таварыства, навуковы працаўнік Інстытута гісторыі і палітычных навук Універсітэта ў Беластоку прафесар Алег Латышонак 13 снежня сустрэўся з гайнаўянамі ў Цэнтры прамоцыі рэгіёна «Чарлёнка» ў Гайнаўцы і распавёў аб рэчаіснасці, у якой сто гадоў таму Польшча і Беларусь сталі незалежнымі дзяржавамі. Гаварыў аб міжваенным перыядзе, калі Беларусь хутка страціла вольнасць. Асноўнае яе тэрыторыя саставіла Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку. Ажно да 1991 года чакалі беларусы покі Беларусь стала незалежнай краінай. Паколькі спатканне адбывалася якраз 37 гадоў ад увядзення 13 снежня 1981 года ў Народнай Польшчы ваеннага становішча, прафесар Алег Латышонак успамінаў, як гэты дзень і чарговыя месяцы праходзілі ў яго жыцці, ажно да арышту ў красавіку 1982 года, якога паслядоўнасцю было турэмнае зняволенне на восем месяцаў.**

На просьбу сабраных Алег Латышонак расказаў, як адбывалася ўвядзенне ваеннага становішча ў Беластоку, дзе ён дзейнічаў у структурах "Салідарнасці".

— Мая дзейнасць у структурах «Салідарнасці» не была вялікай, а атрымаў ад прэзідэнта РП Кавалерскі крыж Ордэна Адраджэння Польшчы як прадстаўнік беларусаў у Польшчы, якія ўключыліся ў дзейнасць «Салідарнасці». Была яна патрыятычным уздымам і здавалася нам, членам «Салідарнасці», што супольна будзе можна многа зрабіць. Мы, маладыя, хацелі мяняць рэчаіснасць і марылі пра лепшую будучыню. Многія беларусы ўспрымалі дзейнасць «Салідарнасці» са страхам, паколькі баяліся, што з перамогай «Салідарнасці» могуць вярнуцца даваенныя санацыйныя парадкі. Увядзенне ваеннага становішча ў Польшчы прыпыніла развіццё краіны на 20 гадоў. Тады вельмі многа актыўных жыхароў нашай краіны выехала за мяжу. 13 снежня 1981 года разбудзілі мяне раніцай сямейнікі і абвясцілі, што ў Польшчы ўведзена ваеннае становішча. Гэта было для мяне вялікай неспадзеўкай і я пайшоў пад будынак Праўлення рэгіёна «Салідарнасці» ў Беластоку, дзе я раней дапамагаў на грамадскіх пачатках. Быў я перакананы, што будынак будзе пад кантролем, але такое не адбылося. Да сённяшняга дня не магу растлумачыць, чаму там службы паявіліся так позна. Раней былі вывезеныя адтуль дакументацыя і друкарскае абсталяванне. Пайшлі мы пад фабрыку «Ухвыты» пабачыць, ці рабочыя наладзілі там забастоўку. Тады ўсе спробы арганізавання забастовак былі хутка і жорстка ліквідаваны. Сталі кантактавацца сябры, з якімі спачатку я стаў расклейваць па горадзе лістоўкі. Пазней было ўзноўлена выдаванне інфармацыйнага бюлетэня «Салідарнасці». Суседка, убачыўшы лістоўкі і не ведаючы, што я іх расклейваў, сказала мне, што «Салідарнасць» яшчэ дзейнічае. Аднак не захоўваліся ў нас асноўныя прынцыпы канспірацыі. Адны хацелі ведаць аб усіх іншых, што дапамагала бяспецы нас распрацоўваць. У мяне было месяца распаўсюджвання бюлетэня «Салідарнасці» і нас службы бяспекі хутка распрацавалі. За адну ноч, 28 красавіка 1982 года, арыштавалі нас сто чалавек і з гэтага ліку пасля допытаў у Камендатуры міліцыі па вуліцы Сянкевіча ў Беластоку, вылучылі 20 асоб, якіх пасадзілі ў турму. Я за сваю дзейнасць адсядзеў у Арышце па вуліцы Капернiка ў Беластоку восем месяцаў, а іншым даваліся сядзець нават даўжэй. Шок спачатку быў, паколькі маладых людзей саджалі ў камеры з забойцамі, бандытамі, ці прастытуткамі ў выпадку дзяўчат. Мы раней не сутыкаліся з такім асяроддзем. Хаця нас рассаджвалі да крымінальных вязняў, пазней не было страшна, паколькі яны да нас ставіліся вельмі добра і гаварылі, што мы ўсе — ахвяры камунізму, — распавядаў Алег Латышонак.



■ Спатканне з прафесарам Алегам Латышонкам вёў старшыня Фонду «Царкоўная музыка» ў Гайнаўцы Мікола Бушко (справа)



Старшыня Беларускага гістарычнага таварыства запрошаны быў у Цэнтр прамоцыі рэгіёна «Чарлёнка» ў Гайнаўцы, каб перш за ўсё расказаць аб рэчаіснасці, у якой сто гадоў таму беларусы і палякі змагаліся за незалежнасць. Была яна іншай у выпадку Беларусі, якая хутка страціла вольнасць, а асноўная яе тэрыторыя саставіла Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку.

— Чакалі беларусы ажно да 1991 года, покі сталі жыць у незалежнай краіне, — заявіць прафесар Алег Латышонак у час спаткання, якое адкрыў старшыня Фонду «Царкоўная музыка» ў Гайнаўцы» Мікола Бушко, арганізатар і вядучы сустрэчы «З цыкла: размовы аб...». Распавёў ён пра грамадскую, палітычную і прафесійную дзейнасць прафесара Алега Латышонка. Звярнуў увагу, што госць з'яўляецца старшынёй Беларускага гістарычнага таварыства і быў між іншым суарганізатарам і старшынёй палітычнай партыі Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне. Вядучы спытаў Алега Латышонка, ці гэта ён прыдумаў назву беларускаму радыё «Рацыя»?

— Назвы «Рацыя» я не прыдумаў, толькі запрапанаваў назву «Басовішча» для фестывалю музыкі маладой Беларусі, — удакладніў Алег Латышонак.

Выступіў ён з тэзісам, што нават калі б Польшча не стала незалежнай краінай сто гадоў таму, то і так гэтай незалежнасці палякі дабіліся б пазней. Незалежнымі сто гадоў таму сталі Беларусь і Украіна, але пасля страцілі незалежнасць. Ізноў сталі незалежнымі ў 1991 годзе.

— Незалежнасці Польшчы дамагаліся польскія эліты і гэта іх вялікая заслуга, што Польшча пасля Першай сусветнай вайны стала незалежнай краінай. Да гэтага спрычынілася ў вялікай ступені параза Расіі ў час вайны, якая прыступіла да яе з надзеяй адбіць Канстанцінопаль, чаго дамагаліся расійскія інтэлектуальныя эліты. Незалежнасці Польшчы дамагаўся, а пасля кіраваў змаганнем за яе захаванне Юзаф Пілсудскі. Зняволены раней у турме ў Мінску напісаў у дакуменце, што ён беларускай нацыянальнасці і сам падпісаўся пад гэтай заявай. Юзаф Пілсудскі лічыў сябе беларусам, паколькі выхоўваўся сярод беларусаў і літоўцаў, адчуваў сябе спадкаемцам Вялікага Княства Літоўскага. Аднак перш за ўсё Пілсудскі лічыў сябе палякам, патрыётам Польшчы. Трэцюю частку жыхароў ІІ Рэчы Паспалітай састаўлялі нацыянальныя меншасці. Паасобныя ўрады Польшчы не склалі добрых адносін з нацыянальнымі меншасцямі. Украінцы ў Галіцыі перад 1918 годам мелі багатае ўкраінскае школьніцтва, свае арганізацыі і кааператывы. Украінская аўтаномія была паступова ліквідавана пасля далучэння Галіцыі да Рэчы Паспалітай. Перад Другой сусветнай вайной у Рэчы Паспалітай не было ні адной беларускай школы і газеты. Непрадуманым было закрыванне і разбурэнні праваслаўных цэркваў у ІІ РП. Калі б Юзаф Пілсудскі жыў, не дазволіў бы нішчыць храмы. Гэтае здарылася ў трыццатых гадах, пасля яго смерці, — гаварыў прафесар Алег Латышонак.

Пачынальнікамі беларускасці на Гайнаўшчыне і Бельшчыне былі, між іншым, сыны праваслаўных святароў — Іван Краскоўскі з Дубіч-Царкоўных і Яўген Хлябцэвіч з Кленік. — Калі вырашалася справа стварэння незалежнай Беларусі, амаль усе беларусы з нашай тэрыторыі і ўсёй заходняй часткі беларускіх земель выехалі ў бежанства, якое было катастрофай для нашых земель. Браты Луцкевічы не паехалі ў бежанства і яны з Вільні арганізавалі беларускі рух пад нямецкай акупацыяй, — распавядаў прафесар Алег Латышонак.

Адказваючы на пытанне дабавіў, што за выдаваннем на Бельшчыне і Гайнаўшчыне пад нямецкай акупацыяй пашпартоў на нямецкай і беларускай мовах стаялі менавіта браты Іван і Антон Луцкевічы.

— Беларусы абвясцілі незалежнасць раней, чым палякі, бо 25 сакавіка 1918 года, а прэм'ерам першага ўрада Беларускай Народнай Рэспублікі быў Язэп Варонка з Кузніцы-Беластоцкай. Незалежная Беларусь дзейнічала коратка, але гэта дало аграмадны імпульс да пазнейшых намаганняў за незалежнасць Беларусі. Беларусы вызначылі сабе задачу абвясціць незалежнасць Беларусі, што здзейснілася ў 1991 годзе, — заявіў прафесар Алег Латышонак.

Затым размова сышла, між іншым, на мяжу паміж Польшчай і Савецкім Саюзам пасля Другой сусветнай вайны. Госць спаткання сказаў, што верагодным з'яўляецца тэзіс сапрэзентаваны Міколам Бушко, што гэта прэм'ер Часовага ўрада Эдвард Асубка-Мараўскі выпрасіў у Іосіфа Сталіна раздзяліць Белавежскую пушчу мяжой. Алег Латышонак паведаміў, што першапачаткова прадугледжвалася ўключыць усю Белавежскую пушчу ў межы Савецкага Саюза, паколькі савецкім уладам перш за ўсё патрэбная была сто гадоў таму непасрэдная чыгуначная лінія паміж Гродназ і Брэстам, якая праходзіла праз Чаромху.

— Беласток меў таксама быць у межах Савецкага Саюза, але супрацьстаяў гэтаму прэм'ер урада Вялікабрытаніі Уінстан Чэрчыль, дамагаючыся, каб мяжа паміж Польшчай і Савецкім Саюзам праходзіла па лініі Керзана. Тады Сталін запатрабаваў і атрымаў Каралевец, — сказаў прафесар Алег Латышонак.

Тэкст і фота
**Аляксей МАРОЗА**

# Канчаюцца светы, трывае малітва

**Прыход у Мастаўлянах — адзін з самых меншых у Польшчы. Прыход гэта 11 вёсак — 103 чалавекі. Але на рамонт царквы ўдалося назбіраць 270 тысяч злотых! Скуль? Магчыма таксама ад пераканання, што трэба клапоціцца пра нешта, што было створанае некалькі стагоддзяў таму. На гэтым таксама ўзрасла царква святога Іаана Багаслова.**



Царкоўка ў Мастаўлянах была пабудаваная ў 1861 годзе. З узгорка, на якім стаіць, відаць Свіслач — а за ёй пачынаецца ўжо Беларусь. З перспектывы Мастаўлян яна здаецца закінутая і чужая. Быццам бы не магла існаваць без другой часткі.

— Гляньце, там стаіць памежны стоўп, — паказвае рукой **айцец Славамір Якімюк**, стоячы пры плябаніі. — Калісьці і гэтыя вёскі за ракой належалі нашаму прыходу.

Аднак і мастаўлянскія належалі іхняму. Зараз пасля вайны, між іншым, Габяты, Баброўнікі, Ярылаўка ці Азяраны апынуліся ў межах СССР. Толькі ў 1948 годзе павялі мяжу па Свіслачы і вёскі вярнуліся ў Польшчу, як і амаль усе іх жыхары. На працягу дзесяцігоддзяў вёскі гэтыя сталі амаль бязлюднымі. Сёння ў некаторых сёлах жывуць дзве асобы.

— Маладых няма. З кожным годам штораз менш людзей, — тлумачыць настаяцель. — Аднаго году глядзіш — дом закрыты, ужо ў наступным з калядою туды не пойдзеш.



Вёска сустракае мёртвай цішынёй. Нікога не відаць на вуліцы ці на панадворках. Ніводных машын. Толькі дагледжаныя прыдарожныя крыжы і каплічкі сведчаць аб прысутнасці людзей. Прыхаджанам старасць прадаўжае час. Сядзяць у сваіх драўляных хатках і праз акно глядзяць на брукаваную дарогу, па якой часу ад часу праедзе машына пагранічнікаў, дзяцей тых, якія калісьці тут жылі ці журналістаў, якія прынамсі раз у год прыязджаюць пад помнік беларускага героя Кастуся Каліноўскага. Тады таксама могуць пагрукаць у дзверы з пытаннямі пра каталіцкага суседа.

Ад пакаленняў жыхары Мастаўлянаў мелі плоскі і адкрыты кругагляд. За іхнімі хатамі на ўзгорку стаяла царкоўка св. Іаана Багаслова і згэтуль, з гэтага ўзгорка кожны мог паглядзець на бязмежны краявід. Царкоўку вельмі добра відаць з кожнай стараны. Яна спакойна чакае, але ніхто з усходу ўжо не прыходзіць. Зараз за царкоўкай канчаецца польная дарога, якой можна было калісьці паехаць. Канчаюцца Мастаўляны. Пачынаецца невялікая рачулка, якая з гадамі зарастае, становіцца меншай і меншай. Крыху далей таксама вёскі, таксама людзі, але жыхары Мастаўлянаў ужо іх не ведаюць.

Між старымі дрэвамі царква стаяла тут ад вякоў. Існуюць звесткі, што пад канец XVI стагоддзя ў Мастаўлянах быў ужо драўляны храм. На пачатку XVII стагоддзя пачалі перацягваць людзей на ўніяцтва. Супраціў тутэйшых вернікаў быў вельмі моцным. У 1839 годзе ў Мастаўлянах існаваў ужо самастойны прыход, які вярнуўся да праваслаўнай веры. Царква, якую пабудавалі ў 1791 годзе, згарэла ў 1841 годзе. Прыхаджане пабудавалі чарговую ў 1843 г. Тая стаіць па сёння, а яе спакою сцеражэ каменны мур. За царквой плыве Свіслач, спераду ідзе пясчаная дарога, а да мура прытуляюцца магілкі. І так было ад вякоў, як інфармуе нататка замешчана ўсярэдзіне царквы, дзякуючы якой нячастыя турысты могуць даведацца аб доўгай гісторыі храма. Уваходзячы здавалася, што царква да найменшых слаёў прасякнула пахам кадзіла. У гэтым месцы чарговыя пакаленні хрысцілі дзяцей, прысягалі любоў і развітваліся з памерлымі. Штотыдзень царкву напаўняе голас жаночага хору і шчыры спеў прыхаджан. Старая драўляная падлога стапталася. У куце стаяць даўнейшыя харугвы, тканыя мясцовымі майстрыхамі.

— А гэтыя мы прывезлі з Украіны, — кажа бацюшка Якімюк, падыходзячы да квяцістай харугвы. — Уявіце сабе, што толькі там яшчэ вышываюць уручную.

Дзякуючы настаяцелю Славаміру Якімюку ў мінулым годзе была адрамантавана лесвіца на званіцу і іканастас. Сёлета ў храме паклалі дубовую падлогу і памянялі знішчаныя калоны. Раней памаляваныя калоны дарэмна мелі нагадваць мармур. Усе працы прайшлі ў адпаведнасці з рэкамендацыямі захавальніка помнікаў дайніны. Рамонт быў магчымы дзякуючы датацыі з Касцельнага фонду, мясцовай гміны і падтрымцы прыхаджан, а таксама выхадцаў з гэтай парафіі, якія часта сюды вяртаюцца.

— То так як са здароўем чалавека: штосьці псуецца, ідзеш да доктара, лечышся. Пазней зноў нешта баліць і г. д. Таксама і тут, штосьці марнее — рамантуем. Вельмі важнае, што людзі гэта разумеюць. Калі трэба нешта адрамантаваць, памагаюць. Яны думаюць: гэта наша. Людзі гэта разумеюць, — кажа бацюшка. — Гэта наша спадчына. Гэта частка нас. Колькі людзей прайшло праз гэтую царкву! Людзі любяць гэтае намоленае месца.

З Мастаўлянаў і суседніх вёсак калісьці людзі хадзілі ў Грыбоўшчыну да прарока Ільі. Ён, нікому не накідваючыся, стаў для мясцовых патрыярхам, які добра раіць і тлумачыць пісьмо. У Ільі сёння стаіць праваслаўная капліца Нараджэння Свяціцеля Іаана Хрысціцеля, якая адкрываецца толькі «на службы, калі патрэба». Яна прыцягвае ўвагу сваім незвычайным выглядам. Вежа нагадвае каталіцкія касцёлы, купал, як ва ўсіх цэрквах. Вось культурны кацёл, у якім з'явіўся прарок Ілья і яго паслядоўнікі. Прыхаджане Мастаўлянскага прыхода, якія з'ехалі ў гарады, не толькі часта наведваюць родную царкву, але таксама як іх папярэднікі прынамсі раз у год ездзяць у месца імперыі прарока Ільі. Менавіта мастаўлянскія прыхаджане ў Грыбоўшчыне ахоўвалі дзеравяны крыж, які паспеў некалькі разоў абваліцца. Тутэйшыя людзі далей завешаныя паміж двума святымі месцамі, да якіх прыходзілі з просьбамі аб Божай ласцы. І ласка на іх сплывала. Тут цяжка адрозніць святое ад свецкага.

Тэкст і фота
**Уршулі ШУБЗДЫ**

Bank Spółdzielczy w Białymstoku/ Oddział w Gródku
Nr. 60 8060 0004 0392 7690 2000 0010
З дапіскам : на рамонт царквы

## УСПАМІН
### АБ ЦУДОЎНЫМ МАНАХУ АРХІМАНДРЫЦЕ ГАЎРЫІЛЕ

Здарылася так, што мне было так цяжка і дрэнна, і ў дадатку ўсё ў мяне пачало разбурацца. Ніяк я не магла знайсці на гэта якой-небудзь рады. Я была сярдзітая, нервовая, на людзей глядзела ваўком, і вырашыла, што ўсё і ўсе прапала. Але здарыўся чалавек, які вырашыў, што трэба мне дапамагчы. Ён ведаў, як гэта зрабіць. Калісьці падышоў да мяне і спытаўся, вельмі тактоўна і далікатна: «Што з табою?». Я адказала, што ў мяне бяда. Ён прапанаваў мне паездку ў Скіт — у Адрынкі. Я не верыла, што гэта мне дапаможа. Але ў мяне не было нічога, каб прайграць. Я прыняла прапанову і мы паехалі. На шляху чалавек распавёў мне гісторыю пра скіт. Сказаў мне, што ёсць цудоўны лекар архімандрыт Гаўрыіл. Зацікавіла мяне гэта. Я адчула, што гэтай сустрэчы мне трэба. Я вельмі, вельмі схацела сустрэць гэтага манаха. Калі мы заехалі туды, я адчула цішыню. Скіт і цішыня. І нейкі нябесны супакой. Годнае месца. Мой смутак адляцеў кудысьці, быццам спыніўся час. З-за царкоўкі выхінуўся манах. Невялікі ростам... але твар ... у сонечным святле так адухоўлены. Я глянула і анямела. У мяне склалася ўражанне, што я сустрэла анёла, які спусціўся з нябёсаў. Гаварыў няшмат, яго мудрыя, разумныя вочы глядзелі на мяне. Я падумала: «Ён ведае, што мне балюча». Я мела з сабою лісток, дзе я напісала пытанні, якія я хацела паставіць айцу Гаўрыілу. Такая была мая першая сустрэча з архімандрытам Гаўрыілам.

Пасля гэтай сустрэчы былі і іншыя. Калісь праз маю галаву праляцела думка, што айцец Гаўрыіл адным паглядам спрычыніўся да таго, што я зразумела свае памылкі. Ужо тады я ведала, што я магу быць спакойнай за сваё жыццё, разбітае як шкляная ваза, і яно нейкім цудоўным спосабам склеіцца. Аднойчы айцец Гаўрыіл прынёс мне скрынку печыва, я мела з сабо ваду. Ён сказаў мне, каб я села і сузірала прыроду. Як ціха прыходзіў, так ціха сыходзіў, часам я нават не ведала, у які бок. У гэты момант спыніўся час, я сядзела і глядзела на стройныя вежы царковак, паблісківаючыя на сонцы. Цішыня і спакой. Я слухала гоман насякомых і цешыла вочы захапляльным краявідам.

Гэта быў асаблівы пустэльнік. У яго было штосьці, чаго няма ў іншых. Яго магутная вера вылівалася на чалавека і пасля гэтай сустрэчы кожны чалавек павінен быў стаць лепшым. У сваёй прастаце, айцец Гаўрыіл перадаваў, кожнаму чалавеку, кавалак сябе — сваёй дабрыні. Асобным раздзелам з'яўляюцца яго стравы: супы, бульба, халаднікі, мяды, травяныя чаі — яны застануцца са мной назаўжды. Такіх страў не з'ясі ў лепшых гатэлях, нават у Рыцы.

Дабраславенне Архімандрыта і цяпло плашча Каралевы Нябёс і Зямлі — гэта падарунак для мяне, які ўчынілі мяне адной з самых багатых жанчын.

Разам з адыходам Архімандрыта прыгасла святлынь.

Незалежна ад усяго, Ён там ёсць. Ходзіць па абіцелі завулкамі з шырокай усмешкай на цудоўным твары. Яго загадкавая ўсмешка застанецца ў маім сэрцы назаўжды — быццам бы ведаў ён больш, чым іншыя.

«Гэта быў мой сябар, недасяжны ўзор дасканаласці і вялікай мудрасці».

«І насталі плач, ціш і пустэча».

Пасмяротны эпітафій для каго-небудзь, чыё цела было кволым, але душой і сэрцам быў ён вялікі.

Мой вялікі сябар, сціплы, пакорлівы манах. Яго ціхія малітвы і сум на твары пакінуць у сваім сэрцы вобраз чалавека з вялікай харызмай. Чалавека, які ўмеў аб'яднаць мноства людзей.

Смак яго страў застанецца з намі назаўжды. Лекар: мяды, травы, чаі якімі частаваў усіх людзей і шчырае, добрае, вялікае сэрца.

Кароль лугавін, побач карміцелькі-ракі, Нарвы. Сумны суцешнік людзей, загубленых, спалоханых, шукаючых суцяшэння ў малітве і цішы.

«Памёр кароль лугавін, няхай жыве кароль у нашых сэрцах!»

**Вечная памяць!**

**Арынка — Ірэна ПІВОВАР, з Сілезіі**

# Грузія — мая любоў (частка 6)



■ Сярэднявечныя абарончыя вежы Ушгулі (Сванетыя)

Swanowie są dumni ze swoich dróg i z tego, jak niebezpiecznie po nich jeździć. Przykładem może być ten oto, raczej kiepski, swański dowcip: Człowiek z nizin zapytał pewnego Swana, czy droga do Mestii jest dobra. Swan odpowiada, że są dwie drogi — jedna dobra, druga zła. Droga, z której twój samochód spadnie do rzeki i nigdy nie zostanie odnaleziony, to ta zła; droga, z której twój samochód spadnie do rzeki, ale twoje ciało zostanie wyłowione to ta dobra. **Tony Anderson, Proch i chleb. Wędrówki przez góry Gruzji.**

Іраклі сам вызначыў сабе ролю тамады, пры чым вельмі стараўся, каб мы адчулі сапраўдны, традыцыйны дух грузінскай супры. Першы тост прыпадняў за Усявышняга і створаны ім свет, у якім маем шчасце жыць, другі — за Грузію, найпрыгажэйшую і найлепшую краіну на Зямлі. Трэці прысвячаўся памяці продкаў, а чацвёрты быў за паспяховае жыццё нашых дзяцей. Тут Аліна не стрымалася. Плечы ўздрыгануліся ад нягучнага рыдання, а па шчоках пакаціліся вялікія, бы гарох, слёзы. *Толькі мы так умеем,* — усхліпвала мне ў рукаў, — *знайсці на сябе пастку і яшчэ за гэта заплаціць.* Я зразумеў, што яна згубіла надзею пабачыць калі-небудзь нашых дзяцей, якія засталіся далёка-далёка ад сванскай вёскі Ушгулі, пра якую ўсе грузіны з гонарам кажуць, што гэта найвышэй распалажаная мясцовасць у Еўропе. Нам было не да разважанняў, ці Каўказ, гэта яшчэ Еўропа, бо ў вачах увесь час стаялі вобразы дарогі, па якой мы дабіраліся з Местыі ў Ужгулі. Ні мясцовыя краявіды — слаўныя абарончыя вежы на фоне пяцітысячнай Шхары, ні выдатнае застолле, каралём якога справядліва лічыўся мясцовы від агульнагрузінскага пірага з начынкай *хачапуры* — мясны *кубдары* — не маглі змазаць тых жахлівых карцін: вузкай грунтавой дарогі з крутымі паваротамі над стаметровымі прорвамі, з глыбіні якіх даходзіў гул ракі Інгуры.

Сорак кіламетраў з Местыі ў Ушгулі ехалі мы тры гадзіны. Падарожнічалі на знятым на месцы пазадарожніку, бо звычайным легкавым аўто няма там чаго шукаць. Дваццаціпаругадовы Дата Накані вёў упэўнена, трубіў перад паваротамі, каб асцерагчы сустрэчную машыну, уключаў перадачу на чатыры колы перад больш шымі калюжамі, незмушона гутарыў з нашымі грузінскімі сябрамі. Тым не менш, толькі свядомасць таго, што верагодна больш мы там не будзем, не дазваляла заплюшчыць вочы, каб не бачыць ні дарогі, ні гор, ні рэчкі ўнізе.

Сванетыя раней была прынамсі паўгода адрэзана ад свету. Ды і ў астатнія шэсць месяцаў нялёгка было туды дабрацца. Гэта не магло не адбіцца на жыцці, мясцовай матэрыяльнай ды духоўнай культуры. Сваны маюць сваю мову, прычым незразумелую астатнім грузінам, тым не менш не раю казаць ім у вочы, што яны — асобная нацыя. Пішуць па-грузінску. А пачалі, калі ў нас не было ні пісьма, ні дзяржаўнасці, ні гісторыі. Можна ў гэтым пераканацца, аглядаючы багата аздобленыя евангеллі ці іконы ў Рэгіянальным музеі ў Местыі. Адасобленасць Сванетыі спрыяла таму, што ў часы ліхалецця там хавалі ад ворагаў найбольш вартасныя скарбы з іншых рэгіёнаў Грузіі. Але і свайго багацця ў іх хапае. Ва Ушгулі зайшлі мы ў адзін з прыватных музеяў і былі ў шоку. Такой тонкай разьбы ў дрэве, такой мастацкай кавальскай работы мы раней не бачылі! А гэта былі не нейкія адмыслова сабраныя экспанаты, а прадметы, якімі карысталася адна сям'я на працягу стагоддзяў. І стаялі яны ў будынку, якому было шэсцьсот-сямсот гадоў, то-бок у мураванай вежы, у якой гаспадары хаваліся разам з дабыткам ад ворагаў. А паколькі, як я толькі што напісаў, чужым было вельмі цяжка туды дабрацца, то ворагамі часта станавіліся суседзі. Таму кожная сям'я мела сваю абарончую вежу. Гэта характэрны элемент краявіду Сванетыі.

У сталіцу рэгіёна — Местыю — цяпер дабірацца не так ужо складана. Дарога ідзе ўздоўж Інгуры праз высокія горы, хаця і пакручастая, але асфальтаваная. Праўда, калі мы ехалі пасля вялікага дажджу, то шмат дзе той асфальт прынамсі да паловы быў заліты балотам і завалены камянямі, якія зышлі з гары. Тым не менш, можна было аднасна бяспечна праехаць. З таго часу, калі Саакашвілі збудаваў у Местыі невялікае лётнішча, дык наогул мястэчка стала шпарка развівацца, будуюцца гатэлі, адчыняюцца пансіёны, рэстараны.



■ Грузінская ваенная дарога



■ У падножжах суровага Казбека

Мы, аднак, былі яшчэ ў Ушгулі. І нас чакала тая самая дарога, па якой прыехалі. Мяне, пасля поўнага набору тостаў Іраклі, страх пакінуў, але Аліна не магла супакоіцца ні за сталом, ні ў машыне.

Сярэднявечная царкоўка святой Багародзіцы (Ламарыя), якая ўзвышаецца сто метраў над Ушгулі і ўпісваецца ў панараму гары Шхары станавілася ўсё меншай. На выездзе з вёскі нашу машыну спыніў хлопчык, якому было дзесяць-дванаццаць гадоў і пачаў усхвальваць краму са сванскай соллю (найбольш папулярная прыправа на цэлым Каўказе). Іраклі выцягнуў яму манету, а хлопчык спытаў, ці мы вернемся па соль. Калі пачуў, што не, адмовіўся ўзяць грошы. *Во, сванска ганарлівасць*, — сказаў Іраклі. А я па сёння не ведаю, ці гэта было натуральна, ці спектакль падрыхтаваны спецыяльна для нас.

* * *

*Абас...ца можна*, — Малхаз глядзеў на парапланы, што кружыліся над глыбокім ярам, на фоне суровых скал. Мы стаялі на Грузінскай ваеннай дарозе, вышэй горналыжнага курорта Гудаўры, каля аркі руска-грузінскага сяброўства. Гэтая пейзажная плашчадка аўтарства славутага скульптара Зураба Цэрэтэлі была збудавана ў 1983 годзе, да двухсотгоддзя Георіеўскага трактата, паводле якога ўсходняя Грузія ішла пад пратэктарат Расіі. І хаця сённяшнія расійска-грузінскія адносіны далёкія не толькі ад сяброўскіх, але і звычайных суседскіх, помнік трымаецца добра, мае шмат наведвальнікаў, узамен ахвяруючы ім незабыўныя краявіды, уключна з Казбекам. Ваколіцу аблюбавалі парапланісты, пры чым працуюць тры групы: грузінская, расійская і ўкраінская. Можна выбраць адну з іх і бясшумна праляцець над Крыжовым перавалам, самым высокім месцам на Грузінскай ваеннай дарозе (2395 м). Мы не паспрабавалі, бо поўнасцю пагадзіліся з Малхазам.



■ Гатовая пакарыць Каўказ

Нашага сябра пакрыўдзілі ў Стэпанцміндзе (ранейшая і да сёння ўжываная назва мястэчка — Казбегі). Мясцовыя прапанавалі падвезці да царквы Святой Тройцы (Цмінда Самэба), якая красуецца не толькі над мястэчкам, на фоне Казбека, але і на вокладках большасці турыстычных даведнікаў пра Грузію. Калі я аднаму з іх сказаў, дзякуй, самі дабярэмся і паказаў пальцам нашу *міцубісі паджэра*, той выказаўся здзекліва ў адрас Малхаза, які курыў ля машыны: *Этот не сумеет.* Тут Малхаз сеў на каня! Паклікаў дзядзьку і даў яму жару! *Ты колькі разоў быў на Казбегу?Ні разу? А я тры разы. Што ты пра мяне ведаеш, каб перад замежнымі гасцямі выстаўляць мне такія ацэнкі: не сумее?!* Чалавек паклаў вушы па сабе, некалькі разоў прасіў прабачэння, што, маўляў, узяў Малхаза за недасведчанага ў гарах гараджаніна і ціхенька сышоў. А мы падаліся ўверх. Дарога, хаця карацейшая, даставіла нам не менш ураджанняў, чым тая з Местыі ў Ушгулі.

У зваротнай дарозе Малхаз патэлефанаваў і ў Ананууры чакалі нас хінкалі. Месца было несамавітае — некалькі драўляных буданоў з прыбіральняй на двары — і каб ехалі мы самі, не павярнулі б нават у той бок галоў, тым больш што на другім баку дарогі красуецца славутая крэпасць. І была б гэта наша найбольшая памылка, бо хінкалі былі надзвычай смачныя. Пачулі мы пазней у хостэлі ў Тбілісі, што ў цэлай сталіцы такіх хінкалі няма як там.

Пра некалькі іншых такіх месцаў і пра грузінскую кухню пару слоў напішу праз тыдзень.

(працяг будзе)

**Мікола ВАЎРАНЮК**
**Фота Аліны ВАЎРАНЮК і аўтара**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Лес гэта не толькі дрэвы і кусты!

Рэдакцыя «Зоркі» размаўляе з **Лукашам Анхімам** — пераможцам беларускага літаратурнага конкурсу «Дэбют-2018», які ўжо 21 раз арганізавала Праграмная Рада тыднёвіка беларусаў у Польшчы «Ніва».

Зорка: — Як адчуваеш сябе як лаўрэат надта прэстыжнага конкурсу?

Лукаш Анхім: — Вельмі прыемнае пачуццё. Не ведаю як пра гэта сказаць. Узнагарода сагрэла маё сэрца.

З: — Як пішаш, то доўга думаеш, шукаеш адпаведных слоў?

ЛА: — Так, але калі знайду патрэбны ключ, тады ідзе ўжо гладка, лёгка...

З: — Як памятаю з мінулых гадоў, у Тваіх вершах заўсёды былі лес і сям'я.

ЛА: — Без бацькоў не было б мяне на свеце. Я сам блукаў бы ў пошуках сэнсу жыцця, шукаў бы свайго месца ў грамадстве. А ў сям'і вучымся гэтаму кожны дзень ад родных, блізкіх людзей. Я ў бацькоў адзін, таму ў нас вельмі блізкія сувязі. Сям'я для мяне — усё.



Лукаш з бацькамі: Люцынай і Яраславам Анхім

З: — А лес?

ЛА: — Для мяне лес гэта не толькі дрэвы і кусты. Гэта штосьць самае прыгожае ў свеце. Там дыхаеш на поўныя грудзі. У галаве мільгаюць новыя задумы, новыя выклікі. Яшчэ вельмі люблю збіраць грыбы.

З: — Як выглядае свет з Твайго акна?

ЛА: — Я жыву ў Міхалове ад стараны Гарадка. Там навокал лес і мне гэта вельмі падабаецца. Іншая рэч, люблю роднае Міхалова, сваю школу, сяброў...

З: — Ад гадоў прымаеш удзел у «Дэбюце». Якая ў Цябе матывацыя?

ЛА: — Заахвочвае мая настаўніца беларускай мовы пані Эмілія Грыка. Без яе дапамогі не было б майго поспеху. Я вельмі ўдзячны ёй за падказкі і праўкі.

З: — Сёння прыехаў Ты з гармонікам і сыграў для ўсіх удзельнікаў «Дэбюту» цудоўны канцэрт. Хто Цябе вучыць ігры?

ЛА: — Пан Лех Мазурэк з Міхалова. Раз у тыдзень езджу таксама на заняткі ў Беласток.

З: — Хочаш стаць музыкантам?

ЛА: — Хачу. Музыка гэта мая любоў.

З: — А якія прадметы найбольш Цябе цікавяць у школе?

ЛА: — Мае любімыя прадметы гэта матэматыка і інфарматыка.

З: — О, гэта добры падмурак для прафесіі музыканта і паэта. Скажы нам, Лукаш, ці пасля гэтай бліскучай перамогі будзеш старацца, каб лепш вывучыць беларускую мову, каб свабодна размаўляць, самастойна чытаць беларускія кніжкі?

ЛА: — Буду, напэўна буду.

*Фота: Ганны Кандрацюк*

**Лукаш АНХІМ**
Міхалова

### Што гусі бачылі, калі па асеннім небе ляцелі

Дзеці каляровыя лісточкі збіралі,
Мае бацькі грыбы збіралі,
Дзедка і бабуля на лаўцы адпачывалі,
Суседзі хату прыбіралі,
Сабака і коцік проста спалі,
Мая сястра жалуды і лісце збірала,
Мы з братам на веласіпедах ездзілі,
А гусі ляцелі.
Крыламі да нас махалі,
Каб мы пра іх памяталі,
І да вясны чакалі.

### Восеньскія лісты

Танцавалі лісточкі,
Вецер для іх іграў,
Шаргаталі лісточкі пад нагамі дзяцей,
Калі яны ў хату вярталіся.
Лісточкі ў асеннім дажджы купаліся,
У лужынах плавалі,
У раннім марозе дрыжалі,
Паасобку ўцякалі.
Блішчаць колерамі ў сонцы,
Падаюць,
І проста ляцяць.

### Калі я на гармошцы іграю

Калі я на гармошцы іграю,
Птушкі спяваюць,
Калі я на гармошцы іграю,
Мелодыя плыве праз акно,
Танцуюць ноты,
Калі я на гармошцы іграю,
Бацька задуманы сядзіць.
Калі я на гармошцы іграю,
Сэрца маміна расце,
Калі я на гармошцы іграю,
Душа бабулі далёка плыве,
Калі я на гармошцы іграю,
Цэлы свет весела гудзе!



## УВАГА КОНКУРС! № 52-18

**З неба ўпаў,
усю зямлю,
як абрусам,
заслаў.
(с...)**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 13 студзеня 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 48: год, месяц, тыдні, дні. Узнагароды, каляровыя аўтаручкі, выйгралі: Мартына Ігнатовіч з Бабік, Агата Галубовіч з Шудзялава, Дар'я Лажэцкая, Марыя Кардзюкевіч, Мацей Віткевіч, Магдалена Калінлоўская, Аляксандра Веслоўская з КШ № 3 у Бельску-Падляшскім. Віншуем!**

## Конкурс на 100 год БНР — мой герой беларус!

# Тата АНДРЭЙ (вылучэнне)



Мацей з татам (з хатняга архіва)



Мацей як лаўрэат конкурсу «Мой герой беларус»

Тата Андрэй — мой асабісты герой. Ён заўсёды дапамагае ў хаце. Але думае таксама пра справы нашай вёскі і гміны. Тата дбае таксама пра лес, бо ён ляснік.

Калісь, напрыклад, з дупла дрэва на панадворку ў суседа выпаў маленькі дзяцел. Была нядзеля і не працавала ніводнае «прытуліска» для звяроў. Тата выратаваў птушачку, бо ён знайшоў асобу, якая патрапіла дапамагчы дзятліку.

Пакуль што мне іншы герой непатрэбны.

**Мацей Мядзведзь,**
*7 клас ПШ у Нараўцы*

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

# Рыба ці кот?

Купіў аднойчы на базары мужык рыбу, якая важыла адзін кілаграм. Прынёс яе дахаты і даў жонцы, каб згатавала страву. А сам пайшоў на работу. Працуе, шчыруе, думае пра смачную вячэру...

Тым часам у хату завітаў сябра жонкі і з'еў усю рыбу.

Вярнуўся дамоў муж і дамагаецца есці:

— Ну як мая рыбка? — пытае ў жонкі. — Хутчэй нясі на стол, а то я галодны як воўк...

— Няма, кот з'еў! — забурчэла жонка.

Мужык узяў ката, паставіў на вагу і вырачыў вочы. Яго кот важыў дакладна адзін кілаграм. Ён наморшчыў лоб, падумаў і кажа:

— Калі гэта кот — дзе рыба? А калі гэта рыба — дзе ж кот?

(*пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк*)

**Войтэк БАНЦАРЭВІЧ**
Лявонавічы, ПШ у Міхалове

## КАХАННЕ З ПЕРШАГА ПОГЛЯДУ

*Калі я ў дзіцячы*
*садок хадзіў,*
*Я моцна*
*адну дзяўчыну любіў.*
*Яе светлыя валасы,*
*Ясныя вочы,*
*Прыгожыя вейкі*
*І цёплы голас.*
*Але не скажу, хто яна,*
*Яе імя таксама*
*прыгожае як яна.*

# Польска-беларуская крыжаванка № 52-18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 48-2018:**

Шанц, стук, ар, на, мошка, шышка, раскол, аладка, Ада, салат, рыс. На, нос, аса, шакал, кумыс, кошка, школа, шакалад, ара, дар, як, страус.

Узнагароды, беларускія наклейкі, выйгралі **Матэвуш Сямёнчык**, **Ксенія Кучынская** з Орлі, **Матэвуш Зыскоўскі** з ПШ № 1 у Гайнаўцы, **Аліўка Каранкевіч** з Залук, **Мацей Мядзведзь** з Нараўкі, **Караліна Харыла** з Міхалова, **Уршуля Сахарчук**, **Магда Якубюк**, **Габрыся Лапінская** з КШ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім, **Габрыела Красько** з Арэшкава, **Кароль Гелда** з Бабік, **Агата Галубовіч** з Шудзялава, **Аліўка Порац** з Нарвы.

Віншуем!



# Наша памяць

## Размова з Яраславам ІВАНЮКОМ, старшынёй Фонду Kamunikat.org, сябрам Управы Беларускага гістарычнага таварыства.

— Вы былі ў ліку ініцыятараў праекта „Наша памяць", які мае ўшанаваць ахвяры пасляваенных злачынстваў на нашым насельніцтве Беласточчыны. Скажыце, калі ласка, што прывяло Вас да гэтай ініцыятывы: нейкая сямейная траўма ад гэтага, вонкавы грамадскі ціск, ці звычайны покліч душы?

— Я запрапанаваў сябрам з Беларускага гістарычнага таварыства ў 2017 годзе ў час нагаша агульнага сходу, каб мы прынялі пастанову якая будзе гаварыць пра тое што трэба правесці інвентарызацыю усіх месцаў памяці і магіл ахвяр, якія загінулі з рук аддзелу Рамуальда Райса, псеўданім „Буры". Няма тут ніякай сямейнай гісторыі, калі ўжо — то сапраўды такі крык душы, бо і пра грамадскі ціск нельга тут гаварыць. Некалькі гадоў раней Юры Каліна запрапанаваў мне працу разам з ім пры фільме „Сярожа", прысвечаным Сяргею Нічыпаруку. Там я меў магчымасць бліжэй з гэтай тэмай пазнаёміцца, хаця ўжо раней ведаў пра гэтыя падзеі, якія адбываліся ў 1946 годзе. І мне падалося гэта вельмі важным, зразумеў, што гэтыя помнікі, месцы памяці, яны ўсе ў не надта добрым стане. Яны былі пастаўлены ў 1960-х гадах, яны рассыпаюцца. Таксама некаторыя магілы, дзе мо ўжо няма сем'яў, ніхто імі не апекаваўся, таксама патрабуюць нейкіх дзеянняў дзеля іхняга захавання. Чарговая рэч гэта тое, што па сутнасці невядома было да канца, дзе ўсе гэтыя магілы знаходзяцца. І сведкі, якія нам могуць пра гэта сказаць, ужо памалу адыходзяць. Гэта апошні момант каб усё гэта зрабіць. Іншая справа, што калі такую інвентарызацыю правесці, то можна будзе скласці дакументы да ваяводы, каб гэтыя ўсе месцы памяці і магілы ахвяраў аддзелу, якім камандаваў „Буры", былі пад апекай дзяржавы. Гэта, праўда, па розных законах, але ёсць такая магчымасць. Рыхтаваць такую дакументацыю дапамагаюць нам і археолагі з Універсітэта ў Беластоку Малгажата і Мацей Карчэўскія. І напэўна, калі гэтая інвентарызацыя і дакументацыя будуць выкананы, мы нешта такое зробім, складзем гэтыя дакументы да ваяводы. Тады можна будзе ўпарадкоўваць гэтыя месцы памяці за дзяржаўныя сродкі; гэта дзяржава будзе апекавацца гэтымі месцамі.

— Мне вядомы тры такія месцы, не магілы — апрача магіл перапахаваных у Бельск вазакоў, у Занях, у Шпаках, у Красным Сяле. Яны не надта выглядаюць. У Занях помнік збоку і там хіба нават няма каму ім апекавацца, бо вёска моцна апусцела, а ў Красным Сяле агароджа помніка была пашкоджана нейкай машынай...

— Некалькі разоў, так як нам сказалі, і ніхто гэтым не займаецца.

— Здалося мне, што з боку людзей, якія там жывуць, няма нейкага такога зацікаўлення. Ці гэта ад страху, ці няма каму...

— Раскажу Вам такую гісторыю. Я сам нарадзіўся ў Бельску, выхаваўся ў Пасынках і калі мне споўнілася сем гадоў пераехаў у Бельск. Недалёка нас жыў сусед — праваслаўны, ніколі не гаварыў па-свойму, і заўсёды ёлку ставіў на каталіцкія Каляды. Мой бацька яго аднойчы запытаў: Слухай, што ты сабе жарты якіясь робіш: ані ты па-свойму не загаворыш, і ёлку ставіш на польскае Руздво... Ён бацьку патлумачыў; ён якраз паходзіў з аднае з тых вёсак, праз якую прайшоў „Буры". Ён яе не спаліў, ніхто там не загінуў, проста аддзел цераз гэтую вёску прайшоў. З тае пары, як ён сказаў, ніхто дома па-свойму не гаварыў. Усе пэўна ж ведалі, што некаторыя вёскі згарэлі, усе ведалі што загінулі там праваслаўныя — ніхто па-свойму ўжо не гаварыў і пачалі яны ставіць ёлку на каталіцкія Каляды. Такой атмасферай, якая ў тых вёсках утрымлівалася, можна тлумачыць тое, што гэтыя магілы такія занядбаныя. І лічу, што мне і маім сябрам з Беларускага гістарычнага таварыства гэта ўсё трэба выправіць, усё гэта захаваць для будучыні, перадаць гэтую памяць. Таму што сведкі ўжо адыходзяць, ужо няшмат іх асталося. Калі мы гэтага не зробім, то хутчэй за ўсё не зробяць гэтага і наступныя пакаленні.

— Наша дзяржава апошнім часам шукае нейкіх герояў. Ставіцца за ўзор ІІ Рэч Паспалітая, але ж яе правадыры паказалі народу плечы ў час выпрабавання, у верасні 1939 года; і галоўнакамандуючы Рыдз-Сміглы, і прэзідэнт Масціцкі папросту ўцяклі з краіны. Варшаўскае паўстанне называецца патрыятычным парывам, цана якога была надта ж высокая і ніякіх вядучых яго персанажаў не ставіцца ў прыклад, бо ацэначна, агульна, загінула там каля двухсот тысяч чалавек; калі не больш нават. І не надта выпадае заводзіць у героі такіх людзей, якія распалілі тое пекла. Таму шукаецца герояў у пасляваенным перыядзе, тых „выклятых жаўнераў", якіх прэзідэнт Камароўскі ўзвёў у ранг амаль нацыянальнага сакруму. Хаця не ўсе яны аднязначна ўспрымаюцца самім польскім грамадствам. Ці, вось, на вашу ініцыятыву не будуць крыва спаглядаць нашы дзяржаўныя чыноўнікі? Для прыкладу, у Красным Сяле быццам гміна павінна заняцца тым помнікам, але... нічога.


Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

— Тое, як будуць глядзець на гэта чыноўнікі, гэта ўжо пытанне іхняга сумлення. Наша задача, наша павіннасць перад гэтымі пакутлівымі людзьмі, гэта давесці справу да такога канца, як нам хацелася б. Бо калі я гавару пра складанне дакументаў, каб дзяржава ўзяла пад ахову гэтыя месцы памяці і магілы загінулых, гэта толькі адна частка таго, што мы хацелі б зрабіць у рамках праекту „Наша памяць". Хацелі б таксама, каб ва ўсіх гэтых вёсках, якія былі спалены „Бурым", былі пастаўлены нейкія мемуарныя знакі, нейкія шыльды ці помнікі з надпісамі, якія гаварылі б пра тое, што там сапраўды здарылася і каб гэта ўсё было на беларускай мове. На гэты момант, так можна сказаць, наша мара. Бо гэтыя людзі загінулі таму, што былі беларусамі. Гэтых людзей лічылі беларусамі тыя, якія да іх стралялі. Таму лічым, што гэта ўсё павінна быць на беларускай мове. І, урэшце, на гэтых памятных дошках павінна знайсціся інфармацыя сапраўдная пра тое, што сапраўды там здарылася. Бо Ваша згадка, што шукаецца цяпер герояў, гэта гістарычная палітыка, а не гісторыя. Мы хацелі б, каб на гэтых памятных дошках знайшлася гістарычная праўда, а не інфармацыя пра тое, якая ў даны момант рэалізуецца гістарычная палітыка. Бо гістарычная палітыка можа мяняцца, а гістарычная праўда астаецца такою, якой яна заўсёды была. Мы павінны зрабіць тое, што ў нашай сіле, каб да такой сітуацыі давесці, да гэтага імкнуцца. А пытанне пра чыноўнікаў гэта ўжо крыху звонку нас.

— У нас здараюцца атакі на нешматлікія двухмоўныя надпісы; а што гаварыць пра мемарыяльныя знакі. І як паставяцца да ініцыятывы самі нашы людзі; ці ёсць ужо можа нейкае грамадскае распазнанне: як наша мясцовае грамадства ставіца да гэтай задумы?

— Распазнанне адбылося ўжо ў час нашых экспедыцый па мясцовасцях. Людзі хочуць каб тыя падзеі захаваліся ў памяці нашчадкаў, каб гэта ўсё засталося. Фактам ёсць, што гэта мясцовыя людзі стаўлялі некаторыя тыя крыжы, асабліва тыя сучасныя, якія ставіліся ў 2000-х гадах. На гэтых крыжах гаворыцца толькі пра нейкія ананімныя ахвяры, не гаворыцца пра тое, хто гэта ўчыніў. Напэўна можна будзе сарыентавацца пра грамадскае стаўленне да гэтай тэмы, калі падрыхтуем ужо выставу, бо хочам такую падрыхтаваць да канца наступаючага студзеня. З інфармацыяй пра тое, як выглядалі гэтыя падзеі ў 1946 годзе, з архіўнымі і сучаснымі здымкамі месц памяці, як выглядаюць магілы, помнікі. Але таксама архіўныя здымкі — іх няшмат — але аказваецца, што ёсць і такія здымкі, пра якія мы не ведалі. Прафесар Алег Латышонак адшукаў у Інстытуце нацыянальнай памяці некалькі такіх здымкаў, якія недакладна апісаны, з якой яны мясцовасці, але яны датычаць менавіта гэтых падзей. Мяркую, што калі гэтыя здымкі пакажам на выставе, то мясцовыя людзі, якія яшчэ памятаюць, дапамогуць паспрабаваць дакладна ідэнтыфікаваць і прыпісаць гэтыя здымкі да канкрэтных мясцовасцей. І тады можна будзе правесці такую зандзіроўку і сарыентавацца, як да гэтага ставяцца нашы людзі. Мяркую, што людзі, якія разумеюць патрэбу захавання памяці, паставяцца да гэтага станоўча. Не спадзяюся нейкага супрацьву з боку нашых людзей. Трэба ж успомніць, што за гэтыя ахвяры молімся таксама ў царкве, хаця мне незразумелая сітуацыя, калі за ахвяры атрада „Бурага" ў адной царкве служыцца толькі паніхіду, а ў іншай велічанне; так, дарэчы, не павінна быць — вернікі павінны ведаць, якая ў гэтай справе пазіцыя Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. А калі згадка пра апаганьванне двухмоўных надпісаў, дык калі так думаць, то не было назваў і нічога не было б. Нашай задачай — выканаць такую працу, якую мы запланавалі, хочам яе давесці да канца. А калі атрымаецца так, што гэтыя месцы апынуцца пад апекай дзяржавы, тады дзяржава будзе пра іх клапаціцца, каб яны захоўваліся. І яшчэ адна важная справа: на могілках у Малешах у час аднае з экспедыцый удалося адшукаць магілу дзяўчыны, якая баранілася перад гвалтам...

— Са Шпакоў?

— Са Шпакоў. Ніхто ўжо не ведаў, дзе яе магіла. Аказалася, што вельмі проста было яе знайсці — трэба было прыўзняць упаўшую намагільную пліту. І вось дзеля гэтага хаця б, варта было б распачаць нашы працы звязаныя з ушанаваннем памяці пра ахвяры атрада „Бурага". Гэта, мяркую, вельмі важна, што мы адшукалі гэтую магілу і напэўна будзем рабіць усё, каб гэтую і іншыя магілы абнавіць, каб гэта засталося ў памяці.

— Дзякую за размову.

Гутарыў **Аляксандр ВЯРБІЦКІ**



NASZA PAMIĘĆ
НАША ПАМЯЦЬ

**Беларускае гістарычнае таварыства пачало збор сродкаў на рэалізацыю праекта «Наша памяць». У рамках праекта запланавана:**

- інвентарызацыю месц паховін і помнікаў ахвяр аддзела PAS NZW пад камандаваннем капітана Р. Райса «Бурага»;
- выставу прысвечаную памяці ахвяр;
- выданне зборніка дакументаў датычных злачынства;
- узвядзенне помнікаў з беларускімі надпісамі.

**Узносы можна пералічваць на рахунак Беларускага гістарычнага таварыства: 70 1240 521 1111 0000 4930 2882 з прыпіскай «Nasza Pamięć».**

Лёс беларусаў Беласточчыны

# Лёс праўнучкі генерала Урублеўскага са Смалянога Садка

Сяргей ЧЫГРЫН

Я памятаю гэту жанчыну, бо быў некалькі разоў на яе сустрэчах у Слоніме ў 1990-х гадах. Яна сустракалася тады шмат са сваімі землякамі, да яе прыязджалі сябры па сталінскіх лагерах, яна перапісвалася, ёй пастаянна тэлефанавалі журналісты з Беларусі, Польшчы і Расіі. Гэту жанчыну звалі Яўгенія Урублеўская (1923-1996). У маім Слоніме яна пасялілася ўжо пад старасць. Тут і пражыла апошнія гады, дзе і памерла, і пахавана.

А жыццё Яўгеніі Урублеўскай было цяжкім і пакутлівым. Спачатку тры гады нявolі ў гітлераўскіх лагерах і турмах, а потым дзесяць — у сталінскіх. Забралі ў жанчыны здароўе, наздзекаваліся над ёй, атруцілі душу, але яна не здавалася, у меру сваіх сіл пратэставала і змагалася за сябе і за тых, хто цярпеў пакуты разам з ёй. У Інце Яўгенію Урублеўскую пад канец тэрміну зняволення пачалі зваць „бунтаркай Урублеўскай”. У нямецкім канцлагеры Равенсбрук і ў сталінскіх лагерах у самых цяжкіх умовах яна знаходзіла магчымасць увязвацца ў самыя розныя авантуры. Ёй заўсёды хацелася нечага высокага і ідэальнага, справядлівасці і дабра. А іх там было мала. Дзеля гэтага ў 1941 годзе Яўгенія Урублеўская ўступіла ў камсамол, а будучы ў нямецкім палоне — у антыфашысцкую арганізацыю „Чырвоная капэла”, у сталінскіх лагерах арганізавала перасылку лістоў на волю.

У нямецкім канцлагеры Яўгенія Урублеўская пазнаёмілася і пасябравала з жонкай Юліуса Фучыка, у савецкім — з жонкай кампазітара Сяргея Пракоф’ева, з Ларысай Геніюш...

Яўгенія Урублеўская часта распавядала, што аднойчы тата ёй расказаў сямейную тайну. „Мой родны прапрадзед, будучы генерал Парыжскай Камуны Валерый Урублеўскі, вельмі маладым закахаўся ў суседнюю дзяўчыну, дачку лесніка, і тая зацяжарыла. А па тым часе гэта быў вялікі скандал, сямейныя непрыемнасці. Ды і Валерый быў вельмі маладым і не меў магчымасці жаніцца, бо ў яго не было сродкаў для ўтрымання сям’і. А без гэтых умоў шлюб не дазваляўся”, — успаміналa Яўгенія Урублеўская.

Каб неяк выратаваць дзяўчыну, у сям’і Урублеўскіх вырашылі, што з ёй будзе жаніцца старэйшы брат Валерыя, Ігнат Урублеўскі. Тым больш, што дзяўчына вельмі падабалася і брату Ігнату. Яны пажаніліся. У іх і нарадзіўся хлопчык — будучы дзядуля Яўгеніі Урублеўскай, Антоній Урублеўскі, які выхоўваўся ў сям’і Ігната Урублеўскага, сын ад Валерыя Урублеўскага. Паколькі дзядуля быў праваслаўным, маладыя вянчаліся ў царкве. І Ігнат прыняў праваслаўе. Ды і ўлада па тым часе падтрымлівала праваслаўную веру. Ігнат Урублеўскі атрымаў невялікі кавалак зямлі ў Смаляным Садку і пераехаў туды з Жалудка. У Смаляным Садку на Беласточчыне атрымалі зямлю і Яноўскія, і Буйноўскія, і іншыя, якія прынялі праваслаўе і пераехалі з Жалудка (цяпер Шчучынскі раён). Пра гэта, падчас сустрэч, распавядала напачатку 1990-х гадоў сама Яўгенія Урублеўская.

Прапраўнучка Валерыя Урублеўскага нарадзілася ў Смаляным Садку (папольску Smolany Sadek, па-падляшску Vorobje) на Гайнаўшчыне 1 кастрычніка 1923 года ў сям’і ляснічага. Сям’я была даволі вялікая — 11 дзяцей. Жэня расла вельмі дапытлівая, добра вучылася ў школе ў Навасадах. Калі дзяўчыны споўнілася 10 гадоў, нечакана памерла яе маці Аляксандра Ануфрыеўна Байко, якая была родам з Белавежы. Пасля пачалі паміраць дзеці. У жывых засталіся толькі трое братоў, сястра і сама Яўгенія. Бацька працаваў у лясніцтве. Быў даволі адукаваным чалавекам, шмат чытаў, ведаў. Палякі яго часта звальнялі з працы, найперш за тое, што быў праваслаўным. Але ў царкву ён не хадзіў, па-свойму верыў і маліўся Богу. Штогод, асабліва зімой, у пушчы актыўна ішла нарыхтоўка дроў. З усіх навакольных вёсак прыязджалі нарыхтоўваць дровы сяляне. Многія з іх начавалі ў сям’і Урублеўскіх. Вяскоўцы шмат пра што гутарылі, найперш пра жыццё, пра тое, як жыць далей. У гутарках актыўны ўдзел прымаў і бацька Яўгеніі, Дзмітрый Урублеўскі, ён шмат разважаў пра палітычную сітуацыю ў свеце. І сяляне яго ўважліва слухалі і паважалі за адукаванасць і добрыя адносіны да людзей.



Яўгенія Урублеўская, 1942 год



ВРУБЛЕВСКАЯ-ЕГОРОВА
Евгения Дмитриевна

Республика Беларусь
231800, г. Слоним,
Гродненской обл.,
ул. Первомайская, 8, кв. 13

Тел. 2-02-73

Аднойчы бацька сказаў, што хоча жаніцца і пераехаць у іншае месца жыць. Дом ён пакінуў сынам. А Жэня не захацела ехаць да чужой маці. Тады яе, адзінаццацігадовую дачку, бацька аддаў у дом для дзяцей Зімненскага жаночага манастыра, які знаходзіўся недалёка ад Уладзіміра-Валынскага. Там было 8 дзяўчынак, у якіх не было бацькоў ці аднаго з іх. Прывезлі туды дзяцей у асноўным з Баранавіч, Брэста і Беластока. Падчас канікул дзяцей адпускалі да знаёмых, сяброў, сваякоў. Жэню стала апякаць сям’я Тарноўскіх з Беластока.

Праз два гады Яўгенія Урублеўская стала вучаніцай агульнаадукацыйнай гімназіі. Яна скончыла гімназію і атрымала спецыяльнасць хатняй гаспадыні, а таксама мела прафесіі кухаркі, вышывальшчыцы і швачкі. Але гэтай адукацыі дзяўчыне было мала і яна марыла стаць доктарам. Ды мары не збыліся, бо хутка пачалася Другая сусветная вайна. І дзяўчыне, як і ўсім іншым, было не да вучобы. 16-гадовая Жэня Урублеўская вырашыла ісці пяшком да Белавежскай пушчы, каб дабрацца да сваіх братоў. Па дарозе дзяўчына заходзіла ў вёскі, у хаты, казала, куды яна ідзе і хто яна. Людзі яе шчыра прымалі і дапамагалі. Каля Седльцаў Урублеўская пачула рускую мову і зразумела, што гэта былі салдаты Чырвонай Арміі. Падышла да іх, пагутарыла і вайскоўцы параілі дзяўчынцы сесці на таварняк і даехаць да Гайнаўкі. Што яна і зрабіла. Сустрэлася з сястрою, пабыла ў яе, а потым у Беластоку ўладкавалася на працу ў арцель „Калектыўная праца”.

Хутка вайна дабралася і да Беластока. І Жэня Урублеўская, як і многія яе равесніцы, была вывезена ва Усходнюю Прусію ў Кёнігсберг на прымусовую працу. Але ёй там пашанцавала, яна трапіла ў сям’ю нямецкага журналіста Эрвіна Кікебена, былога рэдактара адной з нямецкіх газет. Але, калі да іх прывезлі беларуску, немца якраз перавялі ў Берлін на пасаду ў міністэрства па ўсходніх абласцях. Туды паехала з сям’ёй Кікебена і Жэня. Там яна працавала, выконвала розныя хатнія работы і даручэнні.

Праз пэўны час дзяўчына пазнаёмілася з немкай Мільдрэд Харнак. І неяк Харнак у гутарцы з Жэняй сказала: „У 1932 годзе, калі ехала з мужам з Японіі праз Савецкі Саюз, то спыніліся ў Маскве... Там людзі нам вельмі спадабаліся гасціннасцю і дружалюбнасцю. З таго часу я спрыяю гэтай краіне...”. Дзяўчына паверыла немцы і пачала выконваць яе розныя даручэнні. Так лёс звёў Яўгенію Урублеўскую з Берлінскай антыфашысцкай падпольнай арганізацыяй „Чырвоная капэла”.

Ішоў час і аднойчы гестапа даведалася пра сувязь дзяўчыны з антыфашысцкай арганізацыяй. Яе арыштавалі. І пачалося жыццё за кратамі. Сядзела ў пяці турмах, у тым ліку і ў Маабіце, дзе яе кінулі ў камеру-адзіночку. Там дзяўчына прачытала на сцяне прозвішча Мусы Джаліля (1906-1944) — татарскага паэта і журналіста. Яна таксама лацінскімі літарамі напісала сваё імя. Толькі потым, праз шмат гадоў, Яўгенія Урублеўская даведалася насамрэч, хто такі быў Муса Джаліль.

Дзяўчына з Беласточчыны таксама пісала вершы, але на расійскай і часам на польскай мовах. Вось гэтую яе страфу я пераклаў на беларускую мову. Яна гучыць так:

Я ведаю пекла, была я ў ім,
Спазнала пекла мукі.
Пад сінім небам, на зямлі
Ў фашысцкім Равенсбруку...

30 красавіка 1945 года Яўгенія Урублеўская аказалася на волі. Даведаўшы-



KIEROWNIK
URZĘDU DO SPRAW KOMBATANTÓW
I OSÓB REPRESJONOWANYCH
SEKRETARZ STANU

przyznaje

Panu (Pani) Eugenii
WROBLEWSKIEJ

ODZNAKĘ
WETERANA WALK
O NIEPODLEGŁOŚĆ

PIECZĘĆ

SEKRETARZ STANU

Warszawa, dnia 23.XII.1995 r.

Пасведчанне да польскай адзнакі «Ветэран змаганняў за незалежнасць»

працяг ☞ 10

9 ☞ працяг

## Лёс беларусаў Беласточчыны

ся, што вызваленая з палону дзяўчына валодае нямецкай мовай, камандаванне Чырвонай Арміі прапанавала ёй быць перакладчыцай і накіравала ў палац графа фон Віцлебена, які быў узяты пад кантроль Чырвонай Арміяй, перапісваць маёмасць. І дзяўчына пачала працаваць, разумеючы, што яна патрэбна Бацькаўшчыне. І гэта яе акрыліла. Праўда, ненадоўга...

Яўгенію Урублеўскую арыштавалі асабісты (супрацоўнікі спецыяльнага аддзела органаў бяспечнасці — рэд.) у Ваўкавыску. Дапытваў дзяўчыну следчы Бяляеў шмат гадзін, біў яе, замыкаў у халодны каменны лёх памерам 1,5 х 1,5 метра. Выбіваў з яе тое, чаго не было. Праз тыдзень яна не змагла падняцца. І толькі дзякуючы сумленнасці доктара Васільевай, яе вылечылі і праз некалькі тыдняў адправілі на ўсход у спецлагер, а потым у Інту. На яе робе быў нумар Щ-270. Просты падлік паказваў, што там знаходзілася каля 40 тысяч арыштаваных.

У сталінскіх лагерах дзяўчына з Белавежскай пушчы сустрэлася з Ганнай Мендзялеевай — жонкай вядомага вучонага, ёй было 83 гады.Там пасябравала з дзіцячай пісьменніцай Яўгеніяй Таратутай, з якой перапісвалася, сустракалася пасля лагераў. Былі з ёй побач і жонка кампазітара Сяргея Пракоф'ева — іспанская спявачка Ліна Любера, жонка савецкага артыста Барыса Чыркова — Ніна Горская, дачка вядомага генерала Белай Арміі Рыгора Сямёнава, Алена. У Інце Яўгенія Урублеўская сустрэлася і з Ларысай Геніюш. Беларускай паэтцы і змагарцы патрэбна была жанчына, якая мела мажлівасць выходзіць з зоны і перадаваць пошту. Такой жанчынай аказалася менавіта Урублеўская. Ларыса Геніюш у сваёй знакамітай „Споведзі" прыгадвае: „Мае запіскі насіла пераважна нейкая Жэня Врублеўская з Варшавы. Была гэта маладая прыгожая дзяўчына, расейка...".



■ Яўгенія Урублеўская ў сталым узросце

Ларыса Геніюш памылілася, бо гэта была далёка не расійская дзяўчына, а зямлячка яе мужа Янкі Геніюша з Беласточчыны. Калі пачалася Другая сусветная вайна Яўгеніі Урублеўскай было 16 гадоў, а калі вызвалілася са сталінскіх лагераў — 32. Амаль палова жыцця была страчана. Толькі паўстае пытанне: за што і чаму?..

У студзені 1955 года Яўгенія Урублеўская вызвалілася. Вось выпіска з яе даведкі: „Справа па абвінавачанні Урублеўскай Я. Д., арыштаванай 16 верасня 1946 года, перагледзена ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР ад 24 снежня 1959 года. Прыгавор Ваеннага трыбунала Маскоўскай ваеннай акругі ад 17 снежня 1954 года ў адносінах да Урублеўскай Я. Д. адменены і справа за адсутнасцю злачынства спынена".

Яўгенія Урублеўская выйшла замуж за Юрыя Ягорава, які 7 гадоў чакаў яе за калючым дротам, а потым на пасяленні. Неяк раз муж Юрый падараваў ёй васілёк — кветку яе Радзімы. Жанчына аж заплакала, цалаваўшы і мужа, і васілёк. Разам яны потым пераехалі на Бацькаўшчыну.

У апошнія гады свайго жыцця мужная жанчына жыла ў Слоніме. Прымала ўдзел у грамадскім жыцці Слонімшчыны, нават узнагароджвалася граматамі Слонімскага гарсавета. Неяк падчас адной з сустрэч яна сказала: „Я хачу, каб людзі ведалі, каб ведалі тыя, хто не прайшоў праз гэта, каб хоць сённяшнія і будучыя пакаленні зберагліся ад такой долі...".

І апошняе. Валерый Урублеўскі толькі адзін раз наведаў маёнтак Смаляны Садок. Было гэта тады, калі ён даведаўся пра нараджэнне першага ўнука Дзмітрыя. Прыязджаў з Францыі нелегальна, пад выглядам агента па рэкламе швейных машын, моцна загрымiраваны. Бацька Урублеўскай памятаў, як ён яго трымаў на руках і прывёз падарункі.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

---

ПРАВАСЛАЎНАЯ АРХІТЭКТУРА БЕЛАРУСІ

## http://hram.by

За час панавання на беларускіх землях бальшавіцкай улады колькасць храмаў розных канфесій зменшылася да мізэрнай колькасці. Існавалі буйныя паселішчы, дзе не было аніякай царквы, куды маглі б прыйсці і памаліцца людзі. Царкоўныя пабудовы былі ператвораныя альбо ў клубы, дзе час ад часу мясцовая моладзь устройвала бойкі, альбо ў якія-небудзь зерне-, гароднiна-, бульбасховішчы, дзе нават думак аб Богу ў тамтэйшых людзей узнікнуць не магло.

За апошнія трыццаць гадоў, менавіта дзякуючы таму, што багаборчая ўлада сканала, колькасць храмаў значна ўзрасла, у першую чаргу праваслаўных. Пра тое, якія цэрквы і капліцы цяпер ёсць у беларускай краіне, можна даведацца на сайце „Праваслаўная архітэктура Беларусі", які месціцца ў інтэрнэце па адрасе **https://hram.by**.

Калі цікаўны карыстальнік зазірне на дадзены сайт, то перад яго вачыма адкрыецца выяўленне карты Беларусі ў спакойных, блакітна-шэрых колерах. У падзеленую на вобласці і раёны карту ўпісаны назвы гарадоў, якія з'яўляюцца спасылкамі на звесткі аб храмах у той ці іншай мясцовасці. З левага боку размешчаны рубрыкі з назвамі абласцей, а з правага — колькасць храмаў у іх. Дарэчы, калі падлічыць гэтыя лічбы, аказваецца, што агулам у Беларусі існуе 1049 праваслаўных храмаў.

Выйсці на рубрыкі сайта месціцца і ўверсе цэлага выяўлення. Сярод іх — „Наш праект", дзе ўладальнікі сайта распавядаюць, што іх прымусіла ім заняцца. Згодна з размешчанай там інфармацыяй, гэта пазнавальны праект, на старонках якога можна знайсці фотаздымкі і гістарычнае апісанне храмаў, паўдзельнічаць у абмеркаванні мастацкіх якасцей пабудоў, распавесці пра свае ўражанні і ўспаміны, звязаныя з храмамі, размясціць уласныя фота.

Таксама ідэйныя натхняльнікі „Праваслаўнай архітэктуры Беларусі" хочуць стварыць з сайта прыходскі рэсурс, на якім у мінімальным аб'ёме будзе адлюстравана жыццё прыходаў усёй Беларусі (летапіс, кантактная інфармацыя, расклад набажэнстваў, рэквізіты). „У перспектыве прадугледжваецца магчымасць стварэння сайта прыхода на базе нашага праекта", — адзначаюць яны.

Яшчэ адной задачай, якую ставяць перад сабой апантаныя царкоўнай архітэктурай актывісты, гэта стварэнне прафесійнага рэсурсу, у рамках якога праекціроўшчыкі і зацікаўленыя змогуць знайсці суразмоўцаў і калег, абмеркаваць на форуме хвалюючыя пытанні. Паводле ўладальнікаў сайта, у раздзеле „Бібліятэка" даступна спецыялізаваная літаратура, прысвечаная культавай архітэктуры, а раздзел „Майстэрня" дае магчымасць падзяліцца з калегамі чарцяжамі, фотаздымкамі, артыкуламі. У сваю чаргу сайты, прысвечаныя праектаванню храмаў і царкоўнага начыння, знаходзяцца ў раздзеле „Спасылкі".

„У сувязі з тым, што праект знаходзіцца ў стане распрацоўкі, некаторыя часткі і функцыі не працуюць. Мы будзем рады любой Вашай дапамозе, якая паспрыяе развіццю сайта. Распрацоўка сайта, збор фотаздымкаў і іншай інфармацыі здзяйсняецца ўдзельнікамі праекта на валанцёрскай аснове, што абумоўлівае пэўную павольнасць развіцця", — тлумачаць некаторыя цяжкасці ў развіцці партала яго стваральнікі. Пра тое, хто яны, можна даведацца, калі зазірнуць у рубрыку „Удзельнікі".

**Аляксандр ЯКІМЮК**

---

ДАТА З КАЛЕНДАРА

ДАТА З КАЛЕНДАРА
ДАТА З КАЛЕНДАРА
ДАТА З КАЛЕНДАРА

Падзеі і асобы БНР

# БНР – сто гадоў таму

Цягам года на старонках „Нівы" мы расказвалі пра юбілейныя даты 2018 года, тым ці іншым чынам звязаныя з гісторыяй БНР, угодкамі нараджэння ці смерці яе дзеячаў, сучаснікаў, пра арганізацыі і выданні, якія паўсталі ў той перыяд — у 1918 годзе. У заключным выпуску цыкла кароткa прыгадаем сотыя ўгодкі іншых падзей, пра якія яшчэ не было сказана.

**100 гадоў таму ў храналагічным парадку адбыліся наступныя падзеі:**

**8 сакавіка** ў Мінску выйшаў першы нумар беларускай штодзённай газеты нацыянальна-дэмакратычнага кірунку „Беларускі шлях". Выдавалася таварыствам „Заранка". Газета блізка супрацавала з газетай „Вольная Беларусь". Друкавала матэрыялы ў падтрымку дзейнасці Рады БНР. 29 сакавіка 1918 надрукавала 3-ю Устаўную грамату. Рэдактар-выдавец першага нумара Павал Аляксюк, усіх наступных — Алесь Гарун. Выдавалася да 23 жніўня 1918 года.

**1 красавіка** ў Мінску створаны курсы беларусазнаўства. Працавалі да снежня 1918 года.

**Красавік**. У Слуцку пачала выдавацца штодзённая газета „Родны край".

**Красавік**. У Кіеве пачала выдавацца беларускамоўная газета „Беларускае слова".

**Красавік**. Адкрылася Мінская вышэйшая музычная школа, пераўтвораная ў тым жа годзе ў Беларускую кансерваторыю.

**19 траўня**. На базе Таварыства драмы і камедыі ўзнік Беларускі дзяржаўны тэатр БНР.

**Сярэдзіна 1918 г.** Выйшаў у свет першы зборнік народнай паэзіі Алеся Гаруна „Матчын дар". Яго збіраліся надрукаваць яшчэ ў 1914 годзе, але вайна перашкодзіла.

**11 ліпеня**. У Маскве заснаваны Беларускі народны ўніверсітэт. Працаваў толькі да 12 жніўня 1918 года.

**16 жніўня**. У Мінску створана аб'яднанне беларускай інтэлігенцыі „Бацькаўшчына". Мела свае філіі ў Гродне, Бабруйску, Рызе, Вільні і іншых гарадах. Дзейла да 1920 года.

**Лета 1918 г.** У Мінску створана культурна-асветнае таварыства „Прасвета".

**1 кастрычніка**. У Мінску адчынена Каталіцкая духоўная семінарыя. Яна ўзнікла, дзякуючы высілкам Зыгмунта Лазінскага, Фабіяна Абрантовіча, фінансавай падтрымцы княгіні Магдалены Радзівіл. Рэктарам быў прызначаны Фабіян Абрантовіч. Семінарыя размяшчалася ў мурах кляштара айцоў-дамініканцаў. Пазней, у 1921 годзе, семінарыя была эвакуявана ў Наваградак, а потым — у Пінск.

**Лістапад**. У Мінску аднаўлена дзейнасць Мінскага настаўніцкага інстытута. 30 снежня 1918 года ён пераўтвораны ў Педагагічны інстытут. Вялася падрыхтоўка настаўнікаў, рыхтавалася адкрыццё Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (гэтай справай займаліся Аркадзь Смоліч, Мітрафан Доўнар-Запольскі, Усевалад Ігнатоўскі і іншыя. У планах БНР было таксама адкрыццё сельскагаспадарчага і політэхнічнага інстытутаў.

**3 снежня**. У Магілёве заснаваны педагагічны інстытут.

У Віцебску заснавана народная мастацкая школа. Яе кіраўнікі — Юдаль Пэн, Мсціслаў Дабужынскі, Марк Шагал. Пры школе быў створаны музей сучаснага жывапісу. Школа працавала да 1920 года.

Найбольшых поспехаў урад БНР у 1918 годзе дасягнуў у культурным будаванні і развіцці адукацыі. За кароткі час паводле розных падлікаў адкрыліся ад 150 да 350 беларускіх школ, у тым ліку гімназіі ў Будславе, Менску, Наваградку, Слуцку, Гародні. Паводле ініцыятывы Антона Луцкевіча ў 1918 г. утварылася першая беларуская навуковая ўстанова — Беларускае навуковае таварыства ў Вільні. Ішла падрыхтоўка да адкрыцця Віленскай беларускай гімназіі. У 1918 г. у БНР на беларускай мове выходзіла 6 газет і 3 часопісы, дзейла 11 выдавецтваў. Выдавецтва „Адукацыя" друкавала падручнікі для школ.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

*Дар'юш ЖУКОЎСКІ*

* * *

«Кадило Тебе приносим, Христе Боже наш, в вонию благоуханія духовного,
еже пріем в пренебесный мысленный Твой жертвенник,
вознисполи нам благодать Пресвятого Твоего Духа»

*Гэта не добрая пара года на вандроўкі на поўнач,*
*Мы адчувалі, што Палярная зорка прывядзе нас у невядомае,*
*Ехалі мы здалёк на нашых вярблюдах,*
*Дні і ночы на падарожжы цягнуліся ў вечнасць,*
*Але ж мы былі да гэтага прывыклымі,*
*Што ўсё наша жыццё гэта падарожжа да аазісу і вады,*
*Нашы авечкі і козы маюць патрэбу ў зялёных лугах,*
*Нашы вярблюды забяспечвалі нас ва ўсё,*
*Што неабходна, каб выжыць у цяжкіх умовах,*
*Малако і мяса было наша харчаванне,*
*З касцей нашы майстры рабілі добрыя прылады,*
*Паліва з высушанага памёту давала цяпло ў начны час,*
*Нашы жанчыны з воўны рабілі наша адзенне,*
*Скура выкарыстоўвалася для вырабу шатроў,*
*Якія ўзносілі мы пасля захаду сонца,*
*З убітых у зямлю паляў па контуры прамавугольніка,*
*Днём накідвалі мы на іх палатно так, што атрымлівалі цень,*
*А ноччу апускалі на зямлю для абароны ад холаду,*
*Гэта якраз працяглыя, пагружаныя ў цішыню,*
*Кранаючыя прахалодным веяннем вечары дазвалялі*
*Нашым мужчынам збірацца вакол вогнішча,*
*І частавацца лішне салодкім гарачым чаем з дадаткам пустынных траў,*
*Бо гэта быў час на распавед гісторый,*
*Памяць пустынных людзей незвычайна ёмістая,*
*Ніхто з нас не расказваў, аднак, пра гэтага дзіўнага Месію,*
*Наша падарожжа цягнулася доўга,*
*Мы ніколі не былі так далёка,*
*Нашы жывёлы былі стомленыя, збалелыя і ў ранах,*
*У мяшках з казінай скуры мы везлі кадзіла-ладан,*
*Олібанум — духмяную жывіцу нашых усходніх дрэў,*
*Што растуць у паўпустынях і краях пустынь на паўночным усходзе Афрыкі,*
*Міра з нашых бальзамічных дрэў,*
*А леташні збор быў вельмі багаты,*
*Наш самы моцны вярблюд нёс залаты посуд,*
*І ўсе гэтыя зямныя скарбы везлі толькі аднаму дзіцяці,*
*Каб паспець у студзеньскую ноч яшчэ перад яго нараджэннем,*
*Далёка на Падляшшы,*
*Каб малады прыслужнік у царкве ноччу*
*Мог запаліць кадзіла, а яго агонь з вуглёў*
*Прынёс людзям Боскую натуру Хрыста,*
*А дым умацаваў веру ўсіх прысутных і непрысутных,*
*Што чыняць знак крыжа*
*Трыма пальцамі правай рукі.*

## Адгаданка

| | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | | | 2 | | | | | | | |
| | | | 3 | | | | | 4 | | | | | 5 |
| | | | 6 | | | | | | | 7 | 8 | | |
| | | | 9 | 10 | | | 11 | | 12 | | 13 | | |
| | | | | | | | | | | | | | |

**1.** Фердынанд, беларускі жывапісец (1870-1936), **2.** роўная паверхня воднай прасторы, у якой... лад, **3.** вадаплаўная птушка з доўгай дзюбай і вялікім мяшком пад ёю, **4.** абазначэнне невядомай у матэматыцы, **5.** горы з Казбекам, **6.** адзенне для ног, **7.** мара, летуценне, **8.** сплаў жалеза з вугалем, **9.** польская гербавая птушка, **10.** пара года з лютым, **11.** ініцыятыва, пачатак нейкай справы, **12.** царкоўная кніга з псалмамі і малітвамі, **13.** гіганцкія акіянскія хвалі ад падводнага землетрасення.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — народная пагаворка. **(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 48 нумара**

Закон, плашч, Беласток, гітара, чарка, мысль, суп, Іспанія, торба, цесць.

Рашэнне: **Лепш конь благі чым пустая аброць**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'яюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# Справядлівы гараскоп на 2019 год

**Баран (22.03. — 20.04.)** Будзеш разгублены, бо зоркі раз падкінуць адважыня рашэнні, а іншыя адраджваюць рызыку. Засяродзься на тым, што магчымае для здабыцця, замест лавіць арла ў небе. Пад канец года акажацца, што ты на плюсе. Баран з I дэкады: Юпітар спрыяе большым прыбыткам, новыя магчымасці заробку ды на іншым полі; будзь асцярожны ў суполках. З II дэкады: твае перавагі гэта прадпрымальнасць, самаўпэўненасць, адвага; трымай нервы на павадку; не кідай працы, калі не маеш іншай на воку; асцярожна з крэдытамі і большымі выдаткамі. З III дэкады: магчымыя замяшанні на працы — будзь асцярожны; зарабляй грошы замест іх выдаваць.

**Бык (21.04. — 21.05.)** Гэта будзе твой год! Рэвалюцыя, мноства задум і актыўнасці, нервова, але ў снежні будзе ўзнагарода. Слухай сэрца і рабі тое, што дае табе шчасце. З I дэкады: будзеш лішне крытычным; шыкуюцца змены ў штодзённай руціне; ашчаджай, бо будзеш патрабаваць на навуку, падарожжы; пільнуйся ад людзей якія хацелі б выкарыстаць твой энтузіязм і задумы. З II дэкады: дома паразуменне і згода; на працы рабі планы важных мерапрыемстваў — увесь год добры на курсы, навуку, майстар-класы; выдатны «нос» да фінансаў — будзеш мець прыбыткі, магчымае павышэнне ў грамадстве. З III дэкады: важныя працы, сямейныя і сяброўскія сустрэчы; у бізнесе адпылі старыя задумы — могуць прынесці табе вялікія прыбыткі; чакае цябе выгаднейшае жыццё; не слухай нерассудачных людзей; інвестуй у справы, у якіх добра разбіраешся

**Блізняты (22.05. — 22.06.)** Разбудзіцца твая амбіцыя, схочаш быць вольны і багаты. Спакойна! Дыпламатычна распутайся з адносін і ладоў, якія здаўна перасталі табе пасаваць. З I дэкады: спакайнейшы год; твае дзеянні будуць настаўлены на відныя эфекты (бізнес засноўвай 21.05.-3.06.); будзеш мець менш непрадбачаных выдаткаў; у жніўні пільнуйся, бо хуткі інтарэс прынясе больш замяшання чым прыбытку. З II дэкады: будзеш вельмі папулярным; інтарэс рабі з асобамі, якіх грошы заўсёды трымаліся; можаш мець дарагія хаценні; будуць плысці грошы, але выдавай і на сябе. З III дэкады: папрацуй над ладамі ў пары; адвага ў прафесійных справах — вазьміся за важны праект; заззяеш у атачэнні і заслужыш на павышэнне; шукай курсаў, майстар-класаў; не шалей з выдаткамі — восенню падумай пра большую інвестыцыю, куплю жылля, задбай аб страхоўку.

**Рак (23.06. — 23.07.)** Будзеш займацца масай нялёгкіх спраў. Але добры настрой і шчаслівыя выпадкі. У снежні вялікае прызнанне. З I дэкады: мноства залётнікаў; новыя мэты, але мерай сілы на планы; паявяцца дадатковыя грошы — зарабляй на сучасных задумах. З II дэкады: цяжка будзе вытрымаць у няўдалай пары; не ангажуйся ў чужыя справы; пільнуй сямейнай гаспадаркі, ашчаджвай. Плануй будучыню. З III дэкады: зробіш парадак у сям'і; цяжка будзе табе пагадзіць кар'еру з хатнім справамі — і табе належыцца адпачынак; засноўвай бізнес 17.06.-26.06.; не дай сям'і ўвайсці ў рызыкоўны інтарэс.

**Леў (24.07. — 23.08.)** Мноства падарожжаў і новых знаёмстваў. Атрымаеш прапанову супрацоўніцтва з незвычайнымі асобамі, наведаеш незвычайныя месцы. Зоркі спрыяюць новаму каханню. З I дэкады: маеш права на свае зацікаўленні; у прафесіі справы моцна прыспешацца — можаш выйграць у конкурсе, атрымаць датацыю, пераканаць спонсара — добры год, каб актыўна дзейнічаць, лёгка вучыцца; выгаднае супрацоўніцтва; прымі выгадную прапанову ад сімпатычнай асобы; магчымая важная датацыя. З II дэкады: сёлета ўдасца табе падагнаць старыя справы; прыспешыць твая кар'ера, блізкі канец фінансавых праблем; чуццё граша. З III дэкады: удамаўленне; адна незычлівая асоба справакуе цябе да вострага змагання (абаронішся); мноства магчымасцей зарабіць грошы — зважай аднак на суседзяў.

**Дзева (24.08. — 23.09.)** Здзейсніш свае мары. Не чакай, пачынай новыя мерапрыемствы, бо шчасце табе спрыяе. Будзеш актыўны. У прыватным жыцці больш спакою. Блізкія памогуць табе ў рэалізацыі амбітных планаў. З I дэкады: лаві сваё шчасце — жаніся, старайся аб дзіця, у самотнай Дзевы паявіцца пара: вучыся, інвестуй у сябе і свае ўмеласці; не ашчаджай на тым, што паможа табе ў кар'еры. З II дэкады: не саромейся пачуццяў; нагода да рэалізацыі больш амбітных праектаў; упарадкуй выдаткі, шукай таннейшага. З III дэкады: задбай аб сябе; пазбягай саперніцтва і стрэсу; пачнеш разглядацца за рознымі інвестыцыямі — правярай сябе; у красавіку і маі акажацца, на што маеш ставіць.

**Шалі (24.09. — 23.10.)** Год поўны парадоксаў. Возьмеш кар'еру ў свае рукі. Хопіць пераносіць чужыя графікі і настроі! Будзеш мець сілу і шчасце. З I дэкады: праблемы і цяжкія рашэнні ўжо за табою; адчуеш, што пара пазбыцца прафесійных спраў, якія ўжо не прыносяць табе карысці; у кашальку час прасперыці, але інвестуй асцярожна. З II дэкады: слухай сваёй інтуіцыі; упарадкуй рэляцыі; на працы не бяры большых абавязацельстваў чым трэба, але не рабі за менш чым ты варты; будуць грошы, але выдасі іх неахвотна, хутчэй на свой развой і павышэнне кваліфікацыі. З III дэкады: вернуцца старыя любоўныя справы; трымайся далёка ад спрэчак, не старайся задаволіць усіх; не будзь хвальком і не купляй багатага, ашчаджай і рабі сваё; у верасні не дайся ўцягнуць у закупкі ў суполцы.

**Скарпіён (24.10. — 22.11.)** Ад сакавіка ажыўленне, прыліў сіл і нагод да здзяйснення мараў. Не турбуйся за будучыню. Цяпер можаш пачакаць на занятак, дзякуючы якому здабудзеш незалежнасць і радасць. З I дэкады: падтрымка блізкіх. Акаляйся людзьмі, якім можаш давяраць. Здарэнні прыспешаць, але новыя заданні будуць патрабаваць дакладнасці і адвагі. На пачатку года ўпарадкуй фінансы. Негацыюй дамовы, шукай ашчаднасці. Ідуць грошы: 15.05.-8.06. З II дэкады: час важных спраў і дэкларацый у сям'і; твае амбітныя праекты будуць мець шанц на рэалізацыю; інвестуй у рэчы трывалыя і неабходныя; фінансавая незалежнасць; грошы ідуць 21.08.-13.09. З III дэкады: у пары зробіш усё; вырашыш спорную або неадназначную справу на працы; засноўвай бізнес: 5.01.-23.01.; добрая рука да інвестыцыі, але не дай сябе ўвагнаць у саперніцтва.

**Стралец (23.11. — 22.12.)** Будзеш актыўны, адважны, з аптымізмам глянеш у будучыню, бо тое, што цяпер пачнеш, будзе прыносіць табе шчасце і грошы ў чарговыя гады. Задбай аб духоўныя справы, каб жыць больш свядома. З I дэкады: маеш магчымасці развою, якіх не меў ніколі раней; ужо ў студзені паправяцца твае рэляцыі з кімсьці важным; бывай на важных сустрэчах; зарабляй касу, бяры заказы — цяпер лёгка заробіш больш чым у мінулых гадах. З II дэкады: будзе так, як ты хочаш: у прафесіі ўзмацненне сваёй пазіцыі і плённая праца, таксама ў калектыве, у дабрачыннасці; прафесійны поспех як рукой падаць, толькі не злуйся на шмат работы. З III дэкады: не пагражае табе сум і самота; маеш шанц адкрыць у сабе талент да бізнесу, пазнаёмішся з важнымі асобамі, здабудзеш важныя інфармацыі; запішыся на курсы — восень спрыяе тваёй кар'еры; грошай хопіць, але не паддавайся першаму імпульсу.

**Казярог (23.12. — 20.01.)** Пазбудзешся «хвастоў», недаробак, таму што час аднавіць сілы і грунт пад новыя заданні. Будзеш мець узнагароду за ўсе труды і нявыгады, таму цярпліва рабі тое, што найважнейшае. I дэкада: незалежна ад узросту — шукай шчасця ў каханні; наладзіш цудоўны флірт; на працы карысны пералом; будуць грошы — будзеш мець геніяльныя задумы на кар'еру, падарожжы, сустрэчы. З II дэкады: у пары не будзь толькі крытыканам; будзь для ўсіх ветлівы, пазбягай інтрыганаў; пазбягай хуткіх фінансавых непрадуманых рашэнняў. З III дэкады: высветлі непаразуменні; дбай аб добрыя рэляцыі і пазбягай нямілых людзей; ашчаджай, бо каса прыдасца на важнейшыя інвестыцыі; у красавіку і маі кантралюй выдаткі; не дай сябе ўцягнуць у якуюсь фінансавую піраміду!

**Вадалей (21.01. — 19.02.)** Патрэбныя змены. Не бойся рызыкі і навінак. Усяго цяпер варта спрабаваць, нават калі б лавіў ты дзве сарокі за хвост. Будуць новыя прапановы і запрашэнні. З I дэкады: будзеш панам свайго лёсу; шанцы на фінансавы поспех, ды будзеш дзейнічаць асцярожна і цярпліва; зважай на прапановы суполак, лепш дзейнічай самастойна. З II дэкады: будзе бяспечней і весялей; на працы пазбудзься «хвастоў» і палагодзь канфлікты, каб ворагі не мелі на цябе ніякіх гакаў; у фінансах карысны пералом. З III дэкады: не будзеш наракаць на недахоп касы, задум, хутка паладзіш хатнія праблемы; цікавыя нагоды на працы, восенню трапіш на задуму, якую будзеш рэалізаваць яшчэ ў наступныя гады.

**Рыбы (20.02. — 21.03.)** Урэшце падумаеш аб сабе! Ідзі ў кіно, сустрэнься з сябрамі, замест рабіць парадкі. Дома ўсё будзе дзейнічаць само па сабе. Юпітар задбае аб твае справы ва ўстановах. З I дэкады: адчуеш бяспеку і любоў, тваё дзіцё ці падапечны дасягне поспеху; новыя задумы на працы, больш вучобы і абавязкаў, патрэбны новы падыход да праблем; запішыся на курсы, майстар-класы; не пераймайся грашыма — у красавіку і маі шчасце да крэдытаў і датацый; восенню хтосьць блізкі стане лепш зарабляць. З II дэкады: больш часу аддай для сябе; спакойна працуй, не шукай сілай іншых занятказ; грошай хопіць, але не слухай падмоў наконт выдаткаў. З III дэкады: дома спакайней чым у мінулыя гады, задбаеш пра жыллё, агарод, у кар'еры варта пастарацца, каб яе прыспешыць: станеш зарабляць лепш, лёгка і танна навучышся новаму; сплаці усе забавязанні і ўздыхнеш з палёгкай; пільнуйся ад страт 2.05.-15.05.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 10 000 egz.

# «Бязмежжа» — біяграфічная з’ява! Новае Ляўкова 14-16.12.2018



Сакрат Яновіч усё паўтараў, што беларусы Польшчы — культурны авангард. Мы адзіныя сярод нацыянальных меншасцей стварылі сваю літаратуру. І хоць літаратуру не намажаш на скібку хлеба, — як гаварыў Яновіч, — яна самы трывалы падмурак грамадства. Дзякуючы літаратуры, беларусы Беласточчыны здолелі пераскочыць не толькі межы фальклорнай дэкаратыўнасці. Пісьмовая спадчына нясе з сабой магутную абарончую сілу. Яна трывала фіксуе лёс творцаў і іх герояў, ды як жывы арганізм з’яўляецца рухавіком аднаўлення і крэатыўнасці. Як іначай патлумачыць праблікі талентаў сярод маладога пакалення ў конкурсе «Дэбют». Як не дзіўна, іх дарога да беларушчыны часта вядзе праз польскую мову і літаратуру.

Першы дзень «Бязмежжа» несумненна належаў паэтэсе Міры Лукшы і яе слаўнаму 60-годдзю. Прысутнасць ураджэнкі Нараўчанскай зямлі відавочна адначасова ў беларускай і польскай літаратуры. Беларусаў Падляшша парадавала сёлетняя Літаратурная прэмія прэзідэнта Беластока імя Веслава Казанэцкага, прысвоеная Міры Лукшы напярэдадні 25 Сакавіка за сукупнасць творчых дасягненняў.

На «Бязмежжы» прагучалі жывыя чытанні падборкі яе ранніх і сучасных твораў. Уражлівасць і тэматычны абсяг аўтаркі фарміруецца ў паэтычны круг, які безупынна абрастае новымі пластамі. Паэтычная творчасць Міры Лукшы гэта таксама загваздка і выклік для будучых пакаленняў. У ёй шмат нераскрытых сэнсаў, прадчуванняў і паэтычных трапінак. Неўзабаве наша ніўская сяброўка будзе прадстаўляць Падляшша на паэтычным Фестывалі імя Стральцова ў Мінску — «Вершы на асфальце».

Чытанні завяршыў лірычны канцэрт Алеся Камоцкага. Мінскі бард-мастадонт гаварыў пра сувязі з Беласточчынай, а больш дакладна пра «Бардаўскую восень», якая дала яму другія, маладыя крылы.

* * *

Маладыя крылы ў паэзіі Надзеі Артымовіч, якая падрыхтавала беларуска-польскі том «Краявід з невідочнай памылкай». У том увайшлі амаль паўсотні вядомых вершаў, якія разам з перакладам Марціна Рэмбача, прадмовай Яўгена Вапы, фатаграфіямі Паўла Гжэся і дызайнам Юркі Асенніка складаюць выдавецкую жамчужыну. Кніжка парадуе гурманаў эстэтыкі, паколькі без перабольшання можна сказаць, што са старонак выліваецца акіян хараства. Хоць большасць вершаў узнікла ў 70-я і 80-я гады XX стагоддзя, яны надалей недасяжны ўзор у паэзіі. Марцін Рэмбач, перакладчык ужо іншага пакалення, не абмяжоўваецца да дакладнага перакладу. Ён далікатна прабівае абалонку вакол герметычнай прасторы вершаў Артымовіч і выпускае іх у сучасны свет. Нават прэзентацыя «Краявіду з невідочнай памылкай» — жывыя чытанні аўтаркі і перакладчыка, якія прагучалі ў другі дзень «Бязмежжа», праявілі тую ж сугучнасць і крэатыўнасць. Кніжка выйдзе літаральна на днях у серыі бібліятэкі «Нівы».

Падобная слава апярэджвае другое ніўскае выданне — «Поўню» Міхася Андрасюка.

— Гэта рэч, ад якой немагчыма ўцячы, — скажа рэдактар Яўген Вапа, арганізатар «Бязмежжа». — Яна пра нас і пра ўвесь свет.

Цікавасць да творчасці Міхася Андрасюка праяўляе не толькі беларускі чытач Падляшша. Яго кніжак чакаюць чытачы ў Беларусі. На гэта ўплывае непадроблены стыль і прасякнутая духам вобразнасць пісьменніка родам з пушчанскай Войнаўкі.



Міхась Андрасюк, Надзея Артымовіч, Міра Лукша — пісьменнікі-індывідуалы і адначасова дзеці літаб’яднання «Белавежа», якое сёлета адзначала 60-гадовы юбілей.

Як адзначыў галоўны канферансье семінара Яўген Вапа:

— Нішто не нараджаецца на пустым полі! На наш поспех шмат працавалі папярэднікі і продкі, якія падтрымлівалі непісьменны культурны код нацыі.

За словам пайшлі чыны, а больш дакладна — жывыя паэтычныя чытанні аўтараў з Падляшша: Касі Сянкевіч і Андрэя Сцепанюка, якія выступілі з новымі творамі.

«Бязмежжа» ад пачатку робіць стаўку на жывыя чытанні і ў гэтым, несумненна, яго рэдкасць у сучасным, засмечаным гаварыльняй, свеце.

* * *

Хоць добры расказчык — гэта палова поспеху аўтара ў беларускім, пазбаўленым ваколлітаратурнага маркетынгу, свеце. Для Віктара Стахвюка з Трасцянкі была пастаўлена задача распавесці пра феномен «Белавежы». І ён зрабіў гэта па-свойму і нават пайшоў крок далей...

Спачатку расказаў як сам адчуў сябе пісьменнікам:

— У маю школу прыехаў Віктар Швед і пытае: — *Хто піша вершы?*

— Віктар! Віктар! — загрымеў клас.

Гэтае прызнанне пацягнула за сабой публікацыю ў «Зорцы». Пасля гадоў, едучы цягніком з Мінска, сустрэў Яна Чыквіна. Старшыня літаб’яднання жыва пацікавіўся яго творчасцю. Пад уплывам размовы Стахвюк з галавой кінуўся ў паэзію і з ходу напісаў ажно сорак вершаў, якія выйшлі асобнай кнігай.

— Ад пачатку я пісаў па-свойму, — заявіў.

У час семінара ён зачытаў фрагмент аўтабіяграфічнай прозы і гэта, насуперак усім прадказанням і міфам, захапіла гасцей з Беларусі:

— Я слухаў і адчуваў вялікую прыемнасць ад гарманічнасці падляшскай мовы, — гаварыў старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч. — Яна вытрымлівае прынцыпы, каб на ёй пісаць высокую літаратуру, прытым поўнасцю адчуваецца, што гэта беларуская мова.

Прыклад Віктара Стахвюка можа натхніць маладое пакаленне ад Гайнаўкі і Бельска, якое ў адрозненне ад дзяцей з Нараўкі ці Міхалова зусім не горнецца да «Дэбюту». Затое любяць выступаць на сваёй мове ў спектаклях і гавэндах. Пэўную надзею на рэвіталізацыю духа падляшукоў рысавала перспектыва адкрыцця факультэта этнафілалогіі ў Беластоку. На жаль, ідэя сёння закінута...

Творчасць Віктара Стахвюка (а таксама іншых аўтараў, якія пішуць па-падляшску), паказвае, што на нашых вачах вырастае яшчэ адзін падмурак беларускай літаратуры беларусаў Польшчы. І яе нельга ігнараваць.

* * *

Надта хочацца прыпісаць у беларуска-беласточкіх творцаў каларытную асобу Віктра Сазонава з Гародні. Здаецца, ён сам не супраць такога:

— Калі я думаў пра рэдакцыю сваёй новай кніжкі, то адразу падумаў пра Беласток, — прызнаўся Сазонаў. — Бо тут увага для аўтара і яго праўды.

Аўтар «Занатовак кантрабандыста» рыхтуе сюрпрыз чытачам па абодвух баках мяжы. Неўзабаве выйдзе з друку яго тоўсты, бо ў 500 старонак раман, якога фрагмент зачытаў на семінары. Перад тым, ён патлумачыў:

— Мяне ўжо пяць гадоў не запрашалі на «Бязмежжа» і я моцна задумаўся над самім сабой. Я ж нічога новага не пісаў. Таму прысеў і пачаў ...

Паэт Анатоль Івашчанка яшчэ перад выступленнем сказаў нешта ў падобным духу. Для яго «Бязмежжа» — вялікі стымул і выклік, вакол якога круціцца творчы працэс:

— Гэта ўжо біяграфічная з’ява.

— А я дзякую за запрашэнне, — гаварыў Віктар Шніп, несумненная зорка «Бязмежжа». — Калі я еxаў да вас, адчуваў, што бярэ мяне прастуда, а тут пабыў з вамі і паздаравеў...

Феномен «Бязмежжа» заключаецца ў прысутнасці знакамітых паэтаў, празаікаў і рэдактараў з Беларусі. У гэты раз каманду Барыса Пятровіча складалі Зміцер Бартосік, Віктар Шніп, Тацяна і Анатоль Івашчанкі, Ціхан Чарнякевіч, Алесь Камоцкі....

(працяг у наступным нумары)

Тэкст і фота
**Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960 52